
Маржы ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Кнігі Міры Лукшы ➔8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 03 (3219) Год LXIII Беласток, 21 студзеня 2018 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**Сустрэчы на Гагатуху і Вадохрышча, якія арганізуе Музей малой айчыны ў Студзіводах, пачаліся калядаваннем 12 студзеня ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім і былі спалучаны са школьнымі калядными сустрэчамі, якія цяпер штогод арганізуе Бельскі белліцэй. Займальна калядавалі перад вучнямі і настаўнікамі прадстаўнікі ўсіх першых і другіх класаў, выступаючы разам з выхавацелямі, і ліцэйскі калектыў «Спадчына». Сабраных таксама захапілі госці — Узорны фалькторны калектыў «Калыханка» з Міханавіч каля Мінска і Студыя фальклору «Жэмэрва» са Студзіводскага музея, якія побач калядак запрэзентавалі таксама навагоднія спевы і гульні, характэрныя для Шчодрага вечара, у які моладзь нашых вёсак вітала ў мінулым Новы год паводле юліянскага календара.**



❖Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Сустрэчы
## на Гагатуху і Вадохрышча

■ «Жэмэрва» і «Калыханка» злева Дарафей Фіёнік, Андрэй Сцепанюк і Анна Фіёнік)

Фальклорны дзіцячы калектыў «Калыханка», Калектыў традыцыйнага мужчынскага спеву «Рада» з Мінска і калектыў «Жэмэрва» 13 студзеня калядавалі, гагаталі і рабілі фокусы ў Студзіводах падчас Шчодрага вечара, які называецца таксама Гагатухай. 14 студзеня выступілі з калядкамі і фальклорным рэпертуарам у Варшаве. Сустрэча ў Бельскім белліцэі адбылася 12 студзеня на калідоры на другім паверсе школы, дзе адбываюцца агульнашкольныя спатканні. Была добрая нагода, каб супольна славіць Хрыстовае Нараджэнне ў перадапошні дзень 2017 года паводле юліянскага календара і апошні дзень вучобы ў старым годзе. Шматлікая публіка магла паслухаць калядкі ў адборным выкананні і паглядзець фальклорныя выступы калектываў «Калыханка» з Беларусі і «Жэмэрва» са Студзіводаў, да якога належаць таксама вучні Бельскага белліцэя. Сабраных прывіталі дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк і вядучыя калядные мерапрыемства белліцэісткі. Дырэктар Сцепанюк вельмі сардэчна прывітаў архіепіскапа бельскага Грыгорыя, які прыбыў на калядные святкаванне разам з благачынным Бельскай акругі мітрафорным протаіерэем Лявонціем Тафілюком.

— «Хрыстос нараджаецца — слаўце Яго», — такімі словамі дырэктар белліцэя Андрэй Сцепанюк прывітаў сабраных і патлумачыў вучням, што так можна вітацца падчас святочнага перыяду Нараджэння Хрыстовага. Дырэктар пажадаў сабраным здароўя і поспехаў у новым 2018 годзе і выказаў задавальненне, што архіепіскап Грыгорый чарговы раз прыбыў у белліцэй. Панфармаваў сабраных, што апрача спявання калядак вучнямі паасобных класаў, можна будзе падчас спаткання паглядзець калядаванне гасцей і прэзентацыю калектывамі «Калыханка» і «Жэмэрва» фальклорных традыцый святкавання Шчодрага вечара і Вадохрышча.

— Самае важнае падчас Куцці і святкавання Божага Нараджэння гэта любоў і станоўчы падыход да людзей, напатканых падчас святаў. Хрыстос родзіцца для нас, каб мы сталі сынамі Божымі і мы павінны любіць адзін аднаго. Трэба любіць не толькі тых, якія нас любяць, але і любіць асобы, якія варожа ставяцца да нас, — сказаў архіепіскап Грыгорый. Пажадаў, каб змест прэзентаваных калядак глыбока ўвайшоў у душы сабраных і заявіў, што народныя традыцыі таксама трэба захоўваць.



■ Узорны фальклорны калектыў «Калыханка» з Міханавіч

Студзіводскі калектыў «Жэмэрва» выходзіў перад публіку тры разы. Займальна запрэзентаваў калядкі, калядаванне на Новы год і фокусы, якія рабіла моладзь падчас Гагатухі.

— У час Шчодрага вечара, які ў нас называлі Гагатухай ад воклічаў «гогого» падчас клікання Новага года, наша моладзь сыпала дарожкі паміж хлопцамі і дзяўчатамі, лічыла штахеты ў плоце, хавала вароты і рабіла розныя іншыя фокусы. Мы цяпер паказалі толькі некаторыя з іх, а будзем імі займацца заўтра ў Студзіводах, — гаварыла Анна Фіёнік, мастацкі кіраўнік «Жэмэрвы».

— Мы падчас Сустрэч на Гагатуху і Вадохрышча ходзім па хатах і даносім радасць ад Нараджэння Хрыстовага ў сем'і. Разам з дырэктарам Андрэем Сцепанюком рашыліся спалучыць калядаванне белліцэістаў з нашымі сустрэчамі. Разам з нашай «Жэмэрвой» прыехаў сюды калектыў «Калыханка» з Беларусі. Мы спяваем у белліцэі калядкі і паказваем, як у мінулым моладзь адзначала Гагатуху і святкавала Вадохрышча, раздаем жыхарам вёсак «хрысткі». Мы арганізуем нашы сустрэчы, каб захаваць нашы традыцыі каляднага перыяду, пазнаёміць з імі нашу моладзь і напомніць старэйшым жыхарам вёсак, як калісь калядавалі і рабілі фокусы падчас Шчодрага вечара, — сказаў старшыня Аб'яднання Музей малой айчыны ў Студзіводах Дарафей Фіёнік. Паінфармаваў ён, што Сустрэчы на Гагатуху і Вадохрышча арганізуюцца ўжо сёмы раз і патлумачыў, што вечар перад Новым годам трэба называць Шчодрым вечарам або Гагатухай.

— Называнне 31 снежня паводле юліянскага календара другім або праваслаўным Сільвестрам і баляў у гэты дзень Маланкамі, не абапіраецца ні на нашых народных, ні на праваслаўных традыцыях. Рымскі папа Сільвестр лічыцца святым таксама праваслаўнымі вернікамі, паколькі жыў яшчэ перад расколам на ўсходняе і заходняе хрысціянства, так як святая Меланія Рымлянка. Паводле юліянскага календара свята ў гонар Меланіі адзначаецца 31 снежня, а ў гонар Сільвестра 15 студзеня. Шчодры вечар адзначаецца вечарам і ноччу на 1 студзеня, калі святкуем у гонар святога Васілія Вялікага. На гэты дзень запрасілі нас у Варшаву калядаваць у рамках Вялікага аркестра святочнай дапамогі, — заявіў Дарафей Фіёнік.

Падчас апошняга выступу члены «Жэмэрвы» спявалі тыя творы, што выконваюцца ў час святкавання Хрышчэння Гасподняга і раздалі гаспадарам сустрэчы «хрысткі».

— Мы раздалі «хрысткі» і будзем гэта рабіць 21 студзеня, на трэці дзень святкавання Вадохрышча, у Парцаве. У мінулым раздавалі «хрысткі» ў Арэшкаве і Грабаўцы, бо ад жыхароў Арэшкава даведаліся аб гэтым абрадзе. Толькі пазней даведаліся, што ў Парцаве нават яшчэ ў шасцідзясятых і сямідзясятых гадах напярэдадні Вадохрышча раздаваліся «хрысткі» і пасля пры дапамозе гэтай дубовай галінкі гаспадар хрышчэнскай вадой асвячаў сваю хату. Гэтая традыцыя ў іншых вёсках даўно забытая і наша «Жэмэрва» з калектывамі «Рада» і «Калыханка» будзе калядаваць па Парцаве на Вадохрышча і напамінаць пра гэтую традыцыю, — удакладніў Дарафей Фіёнік.

працяг ☞10





# Пра Марс, Расію, Нямеччыну і іншых

Людзі паляцяць на Марс! Гэта ўжо вырашана! Прычым вырашана не толькі нейкім там багатым агенцтвам, якое не ведае куды ўкласці грошы і таму распрацоўвае ідэі галактычнага роўню, але вырашана і самімі людзьмі таксама. Тымі самімі дзядзькамі і цёткамі, якія на той Марс паляцяць. І паляцяць яны толькі ў адзін канец, без вяртання на Зямлю.

Пазіцыя агенцтва тут зразумелая. Палёты ў два бакі вельмі дарагія і на сённяшні момант абсалютна бессэнсоўныя. Ну сапраўды, навошта адпраўляць чалавека на другую планету каб ён вярнуўся назад? Уклалі грошы абы-куды, называецца. З такім жа поспехам можна адправіць каня. А вось калі чалавек там застанецца, разбярэцца што да чаго, што мала верагодна, ды яшчэ раптам можа выжыве. Вось тут нейкая логіка праразаецца — у агенцтва.

Але і для чалавека, зямляніна, нашага з вамі сучасніка, логіку мае таксама толькі палёт у адзін бок. І хоць тут логіка цалкам адваротная агенцкай, але ж таксама зразумелая. Ну які сэнс рызыкаваць жыццём, трэсціся месяцамі ў цесным касмічным караблі, жэрці ежу з цюбікаў і прапусціць мноства аднолькавых як блізнюкі серый любімай мыльнай оперы, каб зноў вярнуцца туды ж сама, адкуль з такой цяжкасцю ўцёк?!!

Вось таму я пераканаы, што для добраахвотнікаў, якія вырашылі рвануць з цывілізацыйна-тэхнічнага зямнога раю на нязведаную планету ў нібыта варожы для жыцця асяродак у фразе „палёт на Марс толькі ў адзін канец" ключавымі і прывабнымі словамі былі менавіта „толькі ў адзін канец". Вось так! Хоць куды! Хоць з якой рызыкай! Абы толькі падалей адсюль і каб ніколі не вяртацца!

Ну ёсць жа ж людзі, якіх нічога тут не трымае. Большасць то не могуць сабе дазволіць такой раскошы, бо трэба зарабляць на дзяцей, ці здаць сесію, ці не спазніцца на працу... Ну ці мала ў нас тых абцяжарваючых абставін? А вось уявіце сабе, што вас тут анішто не трымае! І што, вы не ўцяклі б адсюль, каб больш не бачыць, што тут робіцца?

Ну канешне ж вы рванулі б адсюль, каб не бачыць і не чуць усяго гэтага. Ну як можна ўжо больш чым паўгода глядзець на тое, як, прыкладам, у расійскім невялічкім гарадку Новы Урэнгой мноства дарослых людзей з вялікімі дзяржаўнымі пасадамі дастаюць душу з мясцовага школьніка. І толькі за тое, што ў расійскай дзіцячай дэлегацыі, якая наведвала Нямеччыну, ён са шкадаваннем у Дзень смутку выказаўся пра нямецкага жаўнера, які трапіў у савецкі палон. Не-не. Хлопчык асудзіў нямецкі фашызм, але пашкадаваў немца, сказаўшы, што не ўсе немцы салдаты хацелі ваяваць. Гэтага хапіла, каб у Расіі яго абвінавацілі ў апраўданні фашызму. І цяпер дзяўбуць і яго, і яго школу ўсе тыя чыноўнікі, якія толькі так і могуць паказаць свой патрыятызм і толькі такім чынам быць заўважанымі галоўным патрыётам. А колькі тых, хто разумее гэты абсурд, і маўчаць як мыш пад венікам. І ў Расіі і за яе межамі маўчаць. Баяцца панепакоіць таго патрыёта.

Ну пра сённяшнюю Расію ўсё ясна. А што ж Нямеччына? Ці заступілася яна за таго хлопчыка, што пашкадаваў немца? Памятаю, як пару дзясяткаў гадоў таму руская жанчына хацела зняць антысеміцкі надпіс ля дарогі. Надпіс аказаўся замініраваны і яе добра пакалечыла. Тады Ізраіль адразу заклапаціўся і яе лячэннем, і яе рэабілітацыяй. Але гэта было тады!!! З таго часу свет змяніўся. І зараз рускаму хлопчыку з міралюбівым сэрцам месца няма не толькі ў родным горадзе, але хіба што на планеце. Прынамсі нямецкія палітыкі ў яго праблему не асабліва заангажаваліся.

Гэта ўсяго адзін дробны прыклад пра сённяшні свет. За астатнімі хадзіць далёка не трэба. Асабліва нам, беларусам. І асабліва тады, калі мы параўноўваем, як цывілізаваны свет некалі падтрымліваў аднадумцаў той жа польскай „Салідарнасці", ды і не толькі польскай апазіцыі, і як ён сёння ўспрымае беларускую.

І калі яшчэ нядаўна чалавек у антыдэмакратычных краінах мог хаця б марыць пра падтрымку справядлівага свету, то сёння ён спадзяецца выключна на палёт на Марс, і толькі ў адзін канец. І каб ён, калі з Зямлі з ім наладзяць першую тэлевізійную сувязь, мог адтуль паказаць сюды сярэдні палец. Усім паказаць і адключыць відэасувязь.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Два пытанні



У лісце, які прыслаў мне тыдзень таму мой сябар з Варшавы, узняў ён некаторыя важныя пытанні. Ад сумненняў, ці Польшча з'яўляецца незалежнай, праз указанне палітыкаў як новага сацыялагічнага класа дармаедаў і заканчваючы бягучай сітуацыяй у Каталоніі, іспанскай правінцыі, якая цягнецца да палітычнай незалежнасці. «Ці цягнецца яна да незалежнасці воляй усіх ці большасці каталонцаў, ці гэта падрыўная работа тролінга, кіраванага пуцінскімі чыноўнікамі, жадаючых расстроіць краіны ЕС, разбіць ад цэнтра Заходнюю Еўропу і тым самым аслабіць яе палітычна?» — пытаўся мой сябар. Расія мае ў тым без сумнення свой імперскі інтарэс, — заявіў, зачыніўшы кропкай першы сказ. Затым, выкарыстоўваючы іспанскі прыклад, ён устанаўлівае смелую гіпотэзу аб тым, што сацыяльны антаганізм, які раздзяляе ў цяперашні час Польшчу напалову, як брытвай, на два варожыя палітычныя плямёны, хаця не быў натхнёны расійскімі тролямі, падсілкоўваецца імі спадціцка. Гэта было змешчана ў другім сказе, якое ў пэўным сэнсе вязалася з пытаннем аб тым, ці Польшча з'яўляецца незалежнай, якім пачаў ён свае развагі.

Сказаў у гэтым лісце, расцягнутых на два лісты, было толькі два. Пастаўлены ў іх былі ўсе гэтыя пытанні, якія я цытую вышэй — выказаны ясна, лагічна і разумна. Я прызнаюся, што мой сябар сваім лістом выклікаў маё захапленне. І што я магу сказаць, проста зайздрасць. Такая сцісласць для мяне недасяжная, якую можна параўнаць з майстэрствам цыркавога штукара, які выцягвае і выцягвае — то трусіка з капелюша, то надкушаны яблык, то паўголую паненку. Я паспрабаваў калісь, заблытаўшыся ў бязвыхаднай сітуацыі, выцягнуць сябе за вушы і ведаю, як цяжка гэта штука. Факт, я сам не выцягваўся з капелюша, але з жыццёвай багны, але нават мюнхаўзенская штучка здалася б толькі сабаку на будку, таму што замест таго, каб вывалакацца ўверх, я яшчэ мацней пагружаўся ў жыццёвае г... но. Пры крышыне інтэлектуальнага высілку і маральнай мужнасці можна было з таго выкараскацца. Але нельга сумнявацца ў тым, што хтосьці, каб дапамагчы мне, цягнуў мяне за вушы. І гэтаму дабрадзею я абавязаны падзяку, якую трэба было б выказаць у ста сказах. У стольких, колькі прыкладна ўключае ў сябе раман Л. М.Талстога «Вайна і мір». Ну, дзе мне да Талстога! У рэшце рэшт я абмежаваўся адным словам «дзякуй», маркуючы, што яго шчырасць збалансуе маю артыкуляцыйную неўдалоту. А наконт капелюшоў, асабліва ілюзіяністаў, маю недавер. Гэтак жа, як і да любых заяў, якія таксама прэтэндуюць на званне індывідуальнай рэфлексіі ды адкрытай ісціны.

Спасылаючыся на ліст майго сябра, дык скардзіцца ён на сённяшніх палітыкаў. Не сам адзін. Я таксама далучаюся да ягонага ляманту. Фактычна, літаральна на нашых вачах фармуецца, калі не клас, дык падклас бяздзейнікаў, які абапіраецца не столькі на набыцці сродкаў вытворчасці або права ўласнасці на капітал, як на партыйным назначэнні, што ў выпадку захопу ўлады роднай партыяй, дазваляе прысабечыць дзяржаўныя прадпрыемствы і іх капітал. Клас або своеасаблівы падклас — няўстойлівы, нестабільны, несумяшчальны сацыялагічна — таму што пазбаўлены рыс класавасці праз ахвяраванне дэмакратычным выбарам, які не пазбуўся сістэмных хібаў, якія яшчэ больш паглыбляюцца. Называючы палітыкаў класам, гэтую канцэпцыю трэба ўзяць у зламыснае двукоссе, бо, вядома, не з'яўляецца нават паняццем у марксісцкім сэнсе. Магчыма, лепшым параўнаннем будзе названне яго першапачатковай ардой або пачкам непрафесійных аматараў, якія ўсё больш усемагутныя ў разваліваючайся дзяржаве, тым больш скалечаная дэмакратыя. І чым больш яна непаўнавартасная, тым большы доступ да ўлады мае гэтая дзікая, прагная ўлады і грошай арда. Тут я адзначаю, што антыдэмакратычнае ПіС прыйшло да ўлады ў выніку строга дэмакратычнага выбару. Гэтак жа і Орбан, і Эрдаган, і Лукашэнка, а раней Гітлер і італьянскі дучэ. І Пуцін. Уся закавычка ў тым, што дэмакратыю наогул разглядаюць як аднастайную структуру, раз і назаўсёды вызначаную, не ўспрымальную да сістэмных дэфармацый. На самой справе, гэта не так і ніколі так не было. Можна сказаць, што дэмакратый столькі, колькі грамадстваў, якія ганарацца сваім дэмакратычным статусам. Толькі што на гэты статус маюць велізарны ўплыў эканамічныя, гаспадарчыя і палітычныя ўмовы. А яны з'яўляюцца невядомымі і зменнымі, як зменлівым ёсць адчуванне гэтага статусу.

**Міраслаў ГРЫКА**



## Сваімі вачыма

# Сіла радасці калядавання

Спрадвеку вядома, што надзея памірае апошняй. Пісаў я пра яе і ў выпадку майго бацькі, якія ўсе спадзяванні на прадбачлівы парадак гэтага свету ўскладаў яшчэ на свята Раджаства Хрыстовага. І сапраўды, без снегу і марозу, з вялікодным надвор'ем Каляды мінулі ў адчуванні нараджэння Сына Божага, які вандруе і паселяецца таксама ў самым забытым і бесперспектыўным у дэмаграфічным плане кутку зямлі, якім зараз стала мая родная вёска. Менавіта ўжо сюды не завітваюць нават калядні па прычыне апусцеласці і паўсюднай цемры на вясковай вуліцы. Не рассвятляюць ужо хат рознакаляровыя агеньчыкі і ўпрыгожанні прыбраных ёлак. Не чуваць галасістых гасцін са спевамі і сямейнымі радасцямі. Нават няма ўжо сіняга святла, плывучага ад уключаных тэлевізараў. Заслона апошняга акту памірання пушчанскага лёсу памаленьку набліжаецца да закрыцця адвечнай сцэны жыцця. Адчуванне велічы касмічнай цішыні паказвае ўжо ў рэзкім супрацьстаянні з мізэрнасцю чалавечага зямнога вандравання. Але тады, менавіта з другога боку, узнікае вельмі моцнае зразуменне і перажыванне надзей, звязаных з калядным цудам. Нешта падобнае здарылася і са мною.

На першы дзень Раджаства прынеслі мы з гары нашу сямейную гвязду. Пры печы, з бацькамі і братам, стоячы ўсе разам за гвяздай пачалі мы калядаваць. На адным дыханні ліліся з нашых сэрцаў і душ тыя калядкі, што гадамі кружылі па родным доме і наваколлі. Калядавалі мы так галасіста, быццам знаходзіліся не ў хаце, а — як было традыцыяй у дзяцінстве — пад акном вечароваю парою, калі праслаўлялі нараджэнне Хрыста на славу Божую і радасць гаспадарам. Мы калядавалі таксама для непрысутных членаў нашай сям'і, для тых аднавяскоўцаў і знаёмых, што падаліся з зямнога свету на сустрэчу з Усявышнім. А хацелася нам проста ўявіць іх радасных і задаволеных тым, што ў іхнія дамы ізноў завіталі калядоўшчыкі. Калі гаварыць яшчэ пра катэгорыі цуду — то гэтыя сем ці восем калядак мы праспявалі без аніякіх перарываў, не памыліўшыся і не збіўшыся са слоў нават у славутай «Небо і земля». Выглядала гэта больш-менш так, быццам мы добра рыхтаваліся цэлую піліпаўку, каб не падвесці саміх сябе і не зрабіць з сябе пасмешышча перад гаспадарамі, для якіх выспеўвалі тую векапомную падзею і незвычайную навіну. Пасля калядавання проста нам усім палягчэла на душы, а ніжэйпадпісаны ў пэўны момант нават праслязіўся. Іншыя калядні ў чарговыя святочныя дні не з'явіліся ў пушчанскай прасторы. Толькі потым вечаровую пароць прыйшлі калядаваць тры манашкі аж з... Мінска. Так, гэтага беларускага. Дзе Мінск, а дзе мой родны Доўгі Брод?

Шляхі і дарогі ласкі Божай нам, грэшнікам, цяжка зразумець. Бо каму ж патрэбныя ў сэнсе ахвяраванняў і калядавання толькі пяць яшчэ абжытых хат, раскінутых на ўскрайку Белавежскай пушчы? Перасталі сюды заязджаць будаўнікі праваслаўных цэркваў і манастыроў у Польшчы. Не той маштаб і не тыя спадзяваныя грошы. Шкада траціць час і сродкі на бензін. Раней дзверы не зачыняліся ад шматлікіх калядна-царкоўных груп. Але калі вернікаў і гатовых раскашэліцца ў калядны перыяд пенсіянераў проста не стала, усе па-хрысціянску забылі пра магікан-адзіночак. Цяпер тут толькі адна рэальная калядоўшчыца — смерць. Гэта яна не забываецца пра свае стаўкі і яўкі нават у калядны перыяд. Ейная ненасытнасць і каса маюць пастаянны час жніва, іх багатыя каляды. Пра тое шэпчуць вусны апошніх жывых людзей. Пра тое свечка вецер і плачуць дрэвы пры хатніх сядзібах, асабліва тых пустых. Услед за сваімі гаспадарамі найчасцей яны засыхаюць, або будуць павалены злымі вятрамі.

Зграшыў бы я аднак, калі б забыўся ўзгадаць, што сюды на «стары новы год» заглянулі калядні — пеўчыя з прыхадскога хору, якія традыцыйна спяваюць на патрэбы і ўпрыгожанне вярстоцкага храма. Не здаюцца ўсё ж такі вернікі з гэтага куточка Хрыстовага ўладарання, бо Ён — гэта той адзіны і рэальны яшчэ Гаспадар сэрцаў і душ чалавечых. А зямная адміністрацыя з'яўляецца толькі здзяйсненнем Яго нябесных задум і планаў.

**Яўген ВАПА**

# Маржаванне гэта, аднак, здароўе!

— Ужо ў Харошчы да нас прывыклі, — кажа **Пшэмыслаў Вашынскі, —** хоць на пачатку вырачалі вочы і не ведалі, што сказаць. На гарадскі пляж, ля купальнай сажалкі, дзе адбывалася афіцыйнае адкрыццё, скаціла палова мястэчка.

— І яшчэ столькі народу глядзела на нас праз вокны шпіталя, — дадае з усмешкай пан Пшэмэк, — да шыбак прыліплі ўсе пацыенты і персанал. О, гэта была сенсацыя! Мой субяседнік тады першы раз палез у палонку...

— А на двары стаяў мароз, 20 градусаў! Вадаём скаваў лёд на сорак сантыметраў, — працягвае ўспамін пан Пшэмэк. — З дапамогай паспяшылі пажарнікі, якія выдзеўблі месцы для купання... для сямідзесяці маржоў!

Маржы абажаюць купацца, калі на дварэ трашчыць мароз. Вось і пан Пшэмэк перажыў адваротны шок. Аказалася, што пры моцным марозе ў вадзе цяплей, чым на паветры. Гэта было надта прыемнае пачуццё! І залюбіўся ў маржоў, як гэта кажуць, з першага разу...

Праўда, трыццацігадовы Пшэмыслаў Вашынскі, як дырэктар Цэнтра культуры і спорту ў Харошчы, мусіў даць прыклад і падтрымаць ідэю. Задума прыйшла знізу, а больш дакладна ад харашчанца Марыюша Врубэля, у прыватнасці старшыні Падляшскага клуба маржоў. Разам хацелі разбудзіць жыццё над вадаёмам у зімовы сезон. Дзеля здзяйснення задумы Гарадская рада зняла забарону купацца і прысвоіла вадаёму статус басейна для купання з індывідуальнай адказнасцю. Гэта адхіліла фармальныя перашкоды. Не трэба лекарскіх пасведчанняў і асобных абследаванняў. Морж сам вырашае ці стан яго здароўя дазваляе на такі від актыўнасці. Да групы могуць падключацца аматары з любога закутка зямлі і любога клуба. Важна, каб загараліся для здаровага выкліку.

— Чым нас больш, тым цяплей і больш пазітыўна, — падводзіць усё пан Пшэмэк. — Чалавек ходзіць свежы, бадзёры, усе хваробы абмінаюць бокам — чаго яшчэ трэба да шчасця?!

Праўда, харашчанскія маржы не засяроджаны толькі на сваім шчасці. 14 снежня пакупаліся для Вялікага аркестра святочнай дапамогі.

* * *

На пляжы ўжо палае вогнішча і іграе музыка дыска-пола. Пан Пшэмэк просіць прабачэння. Перад уваходам у ваду мусова прабегчыся, зрабіць некалькі паклонаў, расцягнуць рукі і плечы. Усюды зрух, імпэт. На нагах маржоў боты для хаджэння па вадзе. Мужчыны ў плаўках, жанчыны ў купальніках. На галаве цёплая шапка.

Перад тым як акунуцца ў ледзяной вадзе — маленькі рытуал. Супольны здымак на фейсбук. Пасля — раз, усе ляцяць на глыбокую ваду. Ныраюць. На паверхні вады блішчаць усмешкі. Усе задаволены! Пасля хвіліны... прарываюцца гучныя воплескі. Гэта сяброўскі жэст, якім маржы вітаюць навічка Каміля. А ён шыбуе ўжо на бераг, дзе з цёплым ручніком чакае спадарыня Патрыцыя.

У першы раз морж можа акунуцца ў ваду да паўтары хвіліны. Самыя спрактыкаваныя могуць купацца дваццаць хвілін.

— І як уражанне? — пытаю.

— Зііііімнoooo! — тэатральна дрыжыць навaспечаны морж. — Але думаю, што з кожным тыднем будзе лепей...

**Каміль Станкевіч** на вока — ідэал здароўя. У маржы захацеўся, каб падмацаваць форму. Як прафесійны футбаліст шмат увагі адводзіць здароўю.

Пытаю як патрапіў на бераг вадаёма.

— А я ўжо даўно збіраўся, але нейк не было на гэта часу, — кажа ў адказ 29-гадовы спартсмен. Далучыцца да харашчанскіх маржоў звабіў яго здымак на фейсбуку...

— Думаю, што праз тыдзень зноў прыеду! — дадае.

Фейсбук прыцягнуў таксама 25-гадовую журналістку **Кацярыну Лужынскую**, якая сама сябе ў кампаніі маржоў называе *świeżakiem*. Першы раз прыйшла з сястрой, каб тая зрабіла ёй здымак. Інакш сям'я не паверыла б, што яна там была.

— Маржаванне гэта, аднак, здароўе! — адзначае. — А мне хацелася сябе крыху паправіць.

— А што яшчэ ў вас можна паправіць, — здзіўляюся.

Маладая дама на вока — ідэал прыгожасці і здароўя.

— Гэта было першае шаленства ў маім жыцці, — адказвае з усмешкай пані Кася. Ёй, як пачынаючай журналістцы, вельмі спадабаліся людзі: — Файна з імі бавіць час, размаўляць, — пералічвае — ну, і прастуды жа ж пазбягаю!

* * *

Пасля дзесяці хвілін большасць маржоў ужо акружае вогнішча з кубачкам гарбаты ў руках. З магнітафона пяе Зэнэк Мартынюк: *Пжэс тэ очы зелёнэ, ошаляла....*

— Прашу хвіліну ўвагі, — бярэ голас шэфіха **Аня Васькоўская**. — Нядаўна харашчанскія маржы заснавалі свой клуб *Mroźne stwory*. У лютым паедуць на агульнапольскі з'езд у Мельна. На мерапрыемства заявілася паўтары тысячы маржоў з усёй краіны. Яны будуць прадстаўляць Харошчу, таму рыхтуюць сабе касцюмы: курткі-«паляры» з логінам і аднолькавыя шапкі.

Аня Васькоўская — прафесійны музыкант, вядомы таксама ў беларускім і царкоўным асяроддзі Беластока. Маржаваць пачала чатыры гады таму па прычыне здароўя. Заахвоціла рэабілітантка. Першы раз абедзве паехалі на Дайліды. Ныральі ў ваду самі, без групы. Паехалі другі раз, трэці... І гэта паспрыяла...

Пасля Аня намовіла некалькіх асоб і пачала ездзіць з імі на Дайліды. Праўда, даязджаць з Харошчы на другі канец Беластока гэта пэўная складанасць. Калі на месцы актывізаваліся маржы, прыступіла да іх без аглядкі.

Больш чым пра афіцыйныя абавязкі любіць гаварыць пра прыемнасць маржавання. Для яе найфайней правесці дзесяць хвілін у вадзе. Сёння не ўяўляе сабе нядзелі без маржавання. Адначасова, як шэфіха, даглядае ўсіх спраў. Каб кожны раз былі дровы на вогнішча і гарачая гарбата. Выглядзела ў магазінах ужо ніткі на шапкі і зараз думае як апрануць усіх на агульнапольскі з'езд. Трэба ж ім паказацца сярод людзей...

— А як у сям'і ўспрынялі тваё маржаванне?

— На пачатку быў смех, але прывыклі!

У харашчанскай групе ўжо больш за трыццаць асоб. Але сітуацыя дынамічная, кожны раз даходзіць нехта новы. Трэба спяшацца, бо сезон для маржоў трывае ад канца кастрычніка па сакавік.

* * *

«Марозныя створы» сустракаюцца па нядзелях, у чатырнаццаць гадзін.

— Для мяне гэта не найлепшы тэрмін, — кажа саракагадовы архітэктар і будаўнік **Анджэй Стацэвіч**, — бо гэта час сямейных абедкаў. Чалавек хацеў бы застрагнуць у хаце, пры сям'і.

— А не баіцеся, што пасля купання ўспыхне апетыт?

— Наадварот, — пярэчыць спадар Анджэй, — пасля маржавання чалавек сонны і расслаблены. Цела і душу залівае цеплыня і спакой. Няма мовы пра абжорства і падобныя рэчы!

Спадар Анджэй у пэўным сэнсе ветэран, паколькі першапачаткова маржаваў на Супраслі. Гэта была нефармальная група з чатырох-пяці чалавек.

— І толькі я адзін з сяброўкай вытрымалі, — кажа. — Усе іншыя страцілі «вену». Кажуць, што ёсць ужо інакш.

— Ці маржаванне можна лічыць філасофіяй жыцця?

— Для мяне важна захаваць фізічную дужасць, — кажа, — я адчуваю больш энергіі.

Нашай размове прыслухоўваецца дачушка пана Анджэя.

— Яна таксама ідзе ў мае сляды, — адзначае з гонарам бацька.

На пляжы сустракаю **Ежы Долкіна.** Статны мужчына энергічна пярэчыць галавой, калі заводжу гутарку пра маржоў...

— Гэта не мае кліматы! — смяецца.

— Мой купальны сезон пачынаецца з 24 чэрвеня!

Што робіць на пляжы?

— Я тут па сямейнай справе, — адказвае з усмешкай, — жонка маржуе!

Сярод маржоў сустракаю самога **Марыюша Врубэля.** Старшыня Падляшскага клуба маржоў не хавае гонару за Харошчу:

— Я вельмі хацеў, каб нешта дзеялася ў нас у зімовы час. На Падляшшы маржаванне ўжо ўпісалася ў традыцыю рэгіёна. Самы найстарэйшы морж Ян Шумскі з Беластока практыкуе ўжо паўстагоддзя. Ад пяці гадоў маржаванне стала вельмі папулярнае ў Польшчы, толькі ў Падляшскім клубе займаецца 150 асоб (купаюцца ў Васількаве, Навадворцах, Супраслі, дзве групы купаюцца на беластоцкіх Дайлідах). Свае клубы маюць маржы ў Браньску, Сямятычах, Бельску, Гайнаўцы. Многія купаюцца на індывідуальны рахунак. Чаму маржаванне такое папулярнае і карыснае? Спрыяе яно ў лячэнні пазваночніка, рэўматызму, хваробы галёначных костак, суставаў. Ад яго выраўноўваецца ціск крыві. Прымаўка *Zimna woda zdrowia doda* — чыстая праўда, — кажа Марыюш Врубэль.

— Праўда ці міф, што маржаванне спрыяе сексуальнай актыўнасці? — пытаю нясмела...

— Гэта не міф, — рэзка пярэчыць пан Марыюш, — гэта чыстая праўда!

І каб закончыць на больш афіцыйнай ноце дадае:

— Зімныя купанні выдатна папраўляюць настрой. Ёсць эндарфіны, ёсць пазітыўнае бачанне свету, так што адны плюсы. А людзі патрабуюць блізкасці і цеплыні. Хопіць падумаць пра прыгожую кампанію, а ўжо на душы цяплей. Я сам не ўмею ўжо жыць без маржавання!

Тэкст і фота
**Ганны КАНДРАЦЮК**

## Пункты пракату

У красавіку гэтага года пачнецца чарговы сезон Беластоцкага веласіпеднага транспарту «БіКеР». Ахвотныя катацца на веласіпедзе маюць 500 ровараў. Ёсць таксама 20 велатандэмаў і 20 роварчыкаў для дзяцей. І ўзнікнуць новыя пункты пракату. У горадзе іх 50. Будуць яны адкрыты штодзень кругласутачна — да 30 лістапада. Гэтаксама мае быць і ў 2019 годзе. Веласіпеды будзе можна арандаваць таксама ў Харошчы (тут 14 веласіпедаў) і ў Юхноўцы-Касцельным (20 веласіпедаў).

Пунктаў пракату шмат і яны ў зручных для веласіпедыстаў месцах. Найбольш іх у цэнтры горада. Вялікай зацікаўленасцю карыстаецца, між іншым, пункт пракату ля скрыжавання алеі Пілсудскага з вуліцай Сянкевіча, ля скрыжавання вуліц Вышынскага і Монтэ-Касіна каля аўтавакзала ды на Рынку Касцюшкі, на вуліцах Браніцкага і кс. Папялушкі. У сёлетнім будучым сезоне адкрыюць два новыя пункты пракату: гэта скрыжаванні вуліц 42 Пяхотнага палка (раней вуліца 27 Ліпеня) — Заціша-Далістоўка ды алея Канстытуцыі 3 Мая — вуліца Студзенна. Такую лакалізацыю выбралі жыхары горада ў галасаванні. Тут веласіпеды найбольш запатрабаваныя.

Зараз у Беластоку налічваецца каля 100 кіламетраў веладарожак. Веласіпедныя сцяжынкі часта будуюць на новых вуліцах, а таксама на вуліцах, якія перабудоўваюць і пашыраюць. З кожным годам іх прыбывае. Варта дадаць, што язда на веласіпедзе гэта ашчаднасць і вельмі важны для здароўя рух.

## Новыя маставыя

Аднаўленне вуліц у Гайнаўцы з'яўляецца прыярытэтнай справай. Улады горада дбаюць, каб вуліцы былі роўныя, прыгожыя. У мінулым 2017 годзе паклалі новыя бардзюры і асфальт на вуліцах Новаваршаўскай, Жаромскага, Вясковай і Сарняй. Мадэрнізавалі вуліцы Яжэмбіновую, Targoвы Завулак (тут паклалі брусчатку) і Маламейскую, а таксама частку вуліцы Мазуры. Асфальтавання дачакаліся кароткія „салодкія" вулачкі: Мядовая, Салодкая і Пчаліная ды з птушынымі назвамі: Кручая, Скаўронка, Кукулкі і Сікоркі.

Ужо падрыхтавалі тэхнічную дакументацыю на перабудову маставых на чарговых вуліцах, між іншым, Магноліевай, Ямінавай, Ляшчынавай, Сланечнікавай і Ураджайнай.

У Гайнаўцы гарадскія ўлады клапоцяцца, каб вуліцы мелі шырокія тратуары. Найбольш задаволеныя з іх гайнавяне, якія жывуць пры вуліцах 3 Мая, Новаваршаўскай, кс. Верабея, Баторыя, Пілсудскага, Электрычнай, Ліпавай, 11 Лістапада, Пaддольнай, Простай, Паркавай, Ракавецкага і Арміі Краёвай. На чатырох з іх стаяць прыгожыя лавачкі. **(яц)**

## Карта земляка

Дэпутаты беларускага парламента рэкамендуюць увесці „пасведчанне земляка" для беларусаў, якія пражываюць за мяжою і для суродзічаў — даўнейшых жыхароў Беларусі. Валеры Варанецкі, старшыня парламенцкай камісіі па замежных справах паінфармаваў агенцтва Белта, што новы дакумент не будзе копіяй „Карты паляка".

— Задума ў нас іншая. Мэтай пасведчання з'яўляецца духоўнае ўмацаванне саюза людзей, якія выходзяць з Беларусі — гістарычнай айчыны, — падкрэсліў.

Дэпутаты не гавораць адно аб прадстаўніках „дыяспары", але аб тых, якіх далёкія суродзічы жылі на тэрыторыі сённяшняй Беларусі. Напамінаюць, напрыклад, што бельгійская каралева Матыльда выходзіць са старога шляхецкага роду Сапегаў, які выводзіцца з Вялікага Княства Літоўскага.

— Хацелі б мы аб'яднаць гэтых людзей вакол Беларусі, каб з'явілася ў іх зразуменне факту, што адтуль выводзяцца іх карані, — прыбавіў дэпутат.

Новы дакумент мае аднак у задуме, падобна як Карта паляка, даваць нейкія прывілеі яго ўладальнікам, напрыклад, магчымасць прыезду на Беларусь без візы.

Дэпутаты перадалі свой праект да кансультацыі ў міністэрствы замежных спраў, транспарту, культуры, інфармацыі і ў іншыя зацікаўленыя ўстановы. **(ус)**



# Ціхі вечар над Беластокам

— З Новым годам, з новым шчасцем, — віталіся ў нядзельны адвячорак 14 студзеня шматлікія наведвальнікі Клуба вайсковай часці № 3015 у Беластоку, што па вуліцы Кавалерыйскай. Гэтае месца вядомае аматарам беларускай песні і мерапрыемстваў, арганізаваных Беларускім грамадска-культурным таварыствам. У гэты раз тлумы сабралі XIX Прэзентацыі калядных калектываў «Гвязда і калядка», на якіх выступілі 23 вядомыя калектывы роднай песні, сярод якіх — два новыя: Калектыў усходнеславянскай музыкі з Агароднічак Супрасльскай гміны (кіруе ім Міраслава Ціханюк) ды «Землякі» з падбеластоцкіх Засцянкаў (кіраўнік Міра Дудаль). Знаёмыя ўсе твары асоб, хаця апранутых як калядікі вандруючыя ў марозную святую ноч або ва ўрачыстых гала-касцюмах (як «Васілёчкі», «Расспяваны Гарадок», «Рэха пушчы», Універсітэт залатога веку ці «Куранты» з Бельска або «Цаглінкі»). Сярод сяброў-спевакоў велічаючых Нованароджанага, шчырых прадаўжальнікаў роднай, беларускай і праваслаўнай традыцыі — не толькі крэўныя беларусы, і Хрыста па-свойму выхваляюць не толькі ў царкве. Лідзія Мартынюк з Рыбалаў са сваёй працярэбленай праступай групкай «Ластаўка» нядзельным днём выступіла была ў заблудаўскім касцёле....

«Загарэлася зорачка ў небе, ціхі вечар плыве над зямлёй...» — не толькі традыцыйныя калядкі ў гэты вечар паплылі над зямлёю.

«Небо і земля ныне торжэствуют», — прагучала на сцэне і з залы, — спявалі ўсе разам усе найбольш вядомую калядную песню.





— яна пяе цяпер з анёламі. Як многа тых найстарэйшых неўгамонных носьбітаў роднага апынулася з таго боку вясёлкі! Яны дзесяцігоддзямі ўзгадоўвалі родную ніву, узбіраліся на сцэну і эстраду часам з цяжкасцю, каб іхнія галасы пяялі хвалу Зямлі і Небу і таго, хто іх спалучыў, аддаўшы ў ахвяру сваё зямное жыццё. А самае радаснае, калі з галасамі дасведчаных, пажылых людзей гучаць маладыя галасы — дзіцятак з «Вясёлкі» з Самаўрадавага садка № 14 у Беластоку, дзяўчатак Астапчучанак з Грабаўкі, з «Ластаўкі» з Рыбалаў, юнакоў і дзяўчат з арлянскіх «Вэрвачак», адважных маленькіх тэатралаў з бельскага «Антракта», маладога «падлеску» макаўскай «Трыяды»... Пад імпазантнымі, каляровымі, зіхатліва-матузястымі гвяздамі — каторая сёння самая прыгожая — цяжка выбраць самую прыгожую, якая працягвае традыцыю выконвання яе разам, перадаючы майстэрства з пакалення ў пакаленне — гурты калядікаў. Пры шыкаванні гвязды развучвалі яны і калядкі. Асабліва цікавыя самыя старыя, на пару дзясяткаў строф, з багагласнікаў і з памяці народнай. І таксама новыя песнапенні Малому Дзіцяці, якія склаў, напрыклад, наш старадаўні паэт Віктар Швед, пра якія скажаш, што ўжо гэта народныя беларускія калядкі — настолькі яны папулярныя, свае, сардэчныя, праўдзівыя...

— Я толькі трох калядічкоў прывезла, — уздыхае Лідзія Мартынюк. — Але калі заспяваюць так як на рэпетыцыі, будуць малайцы. Сёння выступаюць Куба Федарук, Наталля Сапыла і Магдаліна Андраюк.

— І мы як частка гэтага зямнога свету таксама святкуем, — пачаў свята віцэ-старшыня БГКТ Васіль Сегень, у нацыянальным беларускім строі. — Калядаванне гэта вельмі важны і адначасова вельмі прыемны атрыбут Божага Нараджэння. Нараджэнне Хрыстова для кожнага хрысціяніна гэта вельмі важнае свята. А праваслаўе для нас, беларусаў, гэта вельмі істотны атрыбут нашай беларускасці. Я б сказаў, вельмі адметная рыса беларусаў тут, на Падляшшы. Без праваслаўя нас, беларусаў, тут, канешне, не было б. «Во Віфлееме вясёла навіна" — толькі вясёлых, радасных навін прыбудзе нам у новым годзе. Жадаю і добрага здароўя. А яшчэ і адвагі — адвагі, каб быць беларусам. Прыйшлося нам жыць у вельмі складаных часах, тады калі нас лічаць нейкім «горшым сортам» людзей, а нам ёсць чым ганарыцца. Так што не цурайцеся беларускасці, з гонарам глядзіце ў вочы нашым братам палякам, украінцам і іншым добрым людзям, і ганарыцеся тым, што мы — беларусы. Гэта наш абавязак перад тымі, каго ўжо сярод нас няма, і перад тымі, якія прыйдуць пасля нас. Мы на нашай зямлі жывем спакон вякоў, гэта наша зямля і ў нас дастойнае і важнае права жыць тут і развіваць нашу культуру. А зараз перад намі святочны вечар — калядаванне.

«Радуйцеся ўсё людзіе» і «Ой на моры-моры» — пачаў хор «Крыніца». Як тут не хапала найсапраўднай калядніцы, якая больш за шэсцьдзясят гадоў несла родную песню з Беластока і Гарадка па ўсіх нашых хатах — Ірэны Паўлючук

Наталька прыехала з Сопата і ўключылася ў нашы спевы. Яе бацькі прыехалі ў Козлікі, пабудаваліся, яна пайшла ў школу ў Заблудаве. Прыехала ў нашу бібліятэку, пачула, як нашы дзеці гавораць, спяваюць. Спыталася ў мамы, ці можа хадзіць на занятні да нас. Маці кажа: «Nie znasz języka". — „Nauczę się". І ўжо другі год вучыцца. Ужо ўсё разумее... Сёлета ўчацьвярых яны ў сямі мясцовасцях выступалі. А Магдаліна Андраюк ужо выступала як салістка... У нас у Рыбалах калядавалі тры групы, была нават група меншанькіх. Але калі б не яны, то і калядікаў амаль не было б... Трымаюць традыцыю ў Рыбалах. Усе мы тут падтрымліваем традыцыю, родную культуру і веру!

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

# Навагодні ўспамін

У гэтым годзе традыцыйнага Сільвестра (31 снежня) і Шчодры вечар (13 студзеня) праводзіў я ў адзіноце на «белай зале». На Сільвестра глядзеў да поўначы музычную тэлепраграму на тэлеканале TVS. А Шчодры вечар правёў я з Радыё Рацыяй. У 19 гадзін выслухаў адно святочныя пажаданні па Беластоцкім радыё, якія перадала мне дачка Аліна з унукамі Кінгай ды Кшысем з нагоды старога Новага года і дня нараджэння, які пазней адзначаў з сябрамі 19 студзеня. Верыць не хочацца, што так хутка сцякае час. Семдзесят восем гадоў праляцела маланкава, незаўважна. І ўспомніліся мне мінулыя будні з маладосці, калі сустракалі мы Гагатуху ў Кузаве. У пяцідзясятых гадах хадзілі пераапранутыя дзед з бабаю, д'ябал ды смерць з касою. Д'ябал быў апрануты ў чорнае адзенне з ражкамі на галаве і доўгім хвастом. Смерць з лупатымі вачыма і дзеравянай касой была захутана ў белую прасціну. Дзецюкі баяліся бліжэй падыходзіць да іх, каб не зрабілі ім крыўды. Штукары заходзілі па чарзе ў кожны дом ды казалі:

Го-гу, го-гу, дайце кішкі на рагу,
Кішкі, каўбаскі на перамот завязкі...

Калі гаспадар не прымаў, дык казалі:

Гоготуха гоготала
Ныгдэ кішкі нэ дустала.
Як дустала то і з'іла,
Под окэньцём напірділа.

У Кузаве папулярнай была батлейка. Зрабіў яе Іван Маркевіч, у якога былі тры сыны: Аляксей, Міхась і самы малодшы Мікалай. Памятаю, што на год малодшы за мяне Міхась быў маім сябрам. Часта мы збіраліся ў Маркевічаў і глядзелі батлейку. Фігуркі выразаў з дзерава сам Іван. Хлопцы хадзілі з батлейкай на Каляды, Новы год і Вадохрышча. Пасля смерці бацькі батлейкай заняўся Аляксей, самы старэйшы. Ажаніўшыся ў Вітаве, забраў батлейку з сабою. Пасля Алёша памёр. Няма ў жывых і апошніх сыноў Івана — Міхася і Мікалая. У вёсцы аб іх і навагодняй батлейцы засталася толькі памяць.




Дзяўчаты на адвячорку варажылі. Збіраліся тайком перад кавалерамі на кватэры. Вылівалі на ваду воск, кідалі боты праз агароджу, лічылі палена (пара-лішка) узятыя з паддашка нейкага кавалера. Памятаю, як малодшая кампанія дзяўчат, якая сабралася ў Марысі і Олі Саласцюк, з суседняга панадворка вынеслі Міхасю Маркевічу палову дроў з паддашка. Кавалерка займалася іншымі фокусамі. Папулярнай гулянкай было здыманне брамак з варот. На другі дзень трэба было шукаць іх у гурбах снегу, бо снегапады тады былі вялікія. Мы сваёй брамкі шукалі тры дні, а яна ляжала пад снегам у суседа ў агародчыку. Некаторым меншыя брамкі кідалі ў калодзеж. Патрапілі нават санкі «сучкі» зацягнуць на дах дома.

На Гагатуху ў вёсцы абавязкова пяклі кішку-крывянку з грачаных круп. Памятаю, што яшчэ дзесяць гадоў таму я заядаўся грачанай кашанкай у сябрука Міхася Бішчука. Наша кампанія складалася з чатырох чалавек: мы з Міхасём ды іголыня суседзі Пятро Саласцюк ды Мікалай Пытэль. Апошнія даўно адышлі ў вечны спачын. Няхай зямля будзе для іх пухам! А Міхасёва жонка, Марыся, і пазней запрашала на грачаную кішку, бо мы лічымся не толькі сябрамі па рабоце, але і далейшымі суродзічамі. У гэтым рамястве не мела яна сабе роўных.

Аб даўнейшых традыцыях Багатага вечара я змог паслухаць 13 студзеня ў канцэрце пажаданняў на Радыё Рацыя. Дасканала ў ролі вядучых справіліся Юрка Ляшчынскі, Аня Шайкоўская і Міхась Андрасюк. Затым свае святочныя віншаванні пасылаю вядучым Шчодрага вечара на Радыё Рацыя ў гэтым дапісе.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Як мы калядавалі 60 гадоў таму

Я ўраджэнец Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Калядаваць хадзіў, калі заканчваў вучобу ў Пачатковай школе ў Старым Ляўкове. Тады была яна сямігадовая. І калі пасля вучыўся ў гайнаўскім ліцэі таксама калядаваў.

Калі ўпершыню мы пастанавілі ісці калядаваць, было нас шэсць асоб: трох юнакоў (у тым я і мой малодшы брат) і тры дзяўчыны з нашай вёскі. Мой бацька зрабіў нам самую прыгожую з іконкай і ангеламі (так нам здавалася) гвязду. І мы вельмі цешыліся, і чакалі Раджаства Хрыстова. Падчас зімніх канікул усе мы збіраліся вечарамі то ў нашай хаце, то ў хатах нашых сяброўак або аднаго сябра. Як нам спяваць, вучылі нас бацькі. Мы мелі намер ісці першы раз калядаваць і ахвотна вучыліся слоў і мелодый святых песень.

І вось прыйшоў той доўгачаканы дзень калядавання. Выйшлі з дому пад вечар. Была снежная і марозная зіма. На дарозе галалёдзіца. Гвязду нёс мой бацька. Мы ёй вельмі даражылі і баяліся, каб яе не пабілі нам старэйшыя каляднікі. А ў тыя гады не бракавала хуліганаў. І часта білі гвязды адны другім, найчасцей калі спаткаліся каляднікі ідучыя адны з аднаго канца вёскі, а другія з другога (і апрача таго калі, крый Божа, былі з іншай вёскі) і выйшлі насупраць сябе. Бывала не хацелі адны другім састуціць з дарогі і тады давай, хто каго сілком пераможа. Найперш вырывалі гвязду з рук таго, хто яе нёс. Здаралася, што біліся нават без прычыны. Хуліганы і толькі. Ну вось мы вам пакажам, дзе ракі зімуюць.

Хаты паўвека таму былі драўляныя і неввысокія. Мы падыходзілі пад самае акно і „дазваляліся" канчаючы словамі: „пець ілі нет" (спяваць ці не). Гаспадары прымалі каляднікаў ахвотна пераважна або паўсюдна на двары. Калі дома былі малыя дзеці, каб холаду не напусцілі. Мы тады спявалі песні толькі з багагласніка, між іншым, „Нова радасць стала", „Дзіўная навіна", „Я умом хадзіла", „Бог предвечный", „Скінія залатая", „Рождество Христово". У хату пускалі, калі гаспадар меў многа гасцей. Тады спявалі каляднікі і застольныя госці. Ахвотна заходзілі мы да бацюшкі ў Старым Ляўкове, спадзяючыся, зто заробім больш грошай. У бацюшкі вельмі часта былі госці. Яны таксама нас дарылі. Вядома, калі мы добра спявалі і наш спеў ім спадабаўся.

Калі пайшлі мы калядаваць у 1958 годзе, некаторыя гаспадары давалі нам не грошы, а булку пірага або каўбасу. Мы загадзя бралі з сабою торбу. Як памятаю, пайшлі мы з гвяздай першы раз і былі вельмі задаволеныя, бо нішто сабе зарабілі. Гэта заахвоціла нас, каб калядаваць і ў наступныя гады. І мы хадзілі. За гэта хвалілі нас нашы бацькі. Прайшлі гады. Зараз некаторых нашых сяброў і сяброўак, з якімі я і мой брат хадзілі калядаваць, няма ўжо ў жывых. Мы наведваем іх магілы на новаляўкоўскім парафіяльным могільніку. Не забываем. Захоўваем іх у памяці, як самых блізкіх.

Два гады таму майму брату Кастусю Таварыства „Ятрышнік" выдала друкам зборнік вершаў „Сярод сваіх" — 70 вершаў з нагоды ягонага 70-годдзя жыцця. Ёсць у ім верш пад загалоўкам „Раджаство Хрыстова". Вось некаторыя яго радкі:

А пад вечар каляднікі
з гвяздай весела ішлі,
людзям калядкі спявалі
многіх летаў ім жадалі.

Рэха колішняга нашага калядавання ўсё жыве ў нас, новаляўкоўцаў. І традыцыя яго ў Новым Ляўкове прадаўжаецца. Сёлета ў мой дом прыходзілі дзве групкі каляднікаў з гвяздамі. Мы ім вельмі рады. Прымалі іх, як калісьці нашы бацькі, я і мой брат (жывем у двух дамах, але на адным і тым самым бацькоўскім панадворку).

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Спартыўная пляцоўка трапіць у суд

У 1980-х гадах група маладых кашалёўскіх энтузіястаў грамадскім чынам пабудавала ўзорную, хаця няпоўнагабарытную футбольную пляцоўку. У 2016-2017 гадах за гмінныя сродкі і дафінансаванне (30%) з Міністэрства спорту і турызму коштам амаль у 480 тысяч злотаў (у тым амаль 150 тыс. з МСіТ) спартыўны аб'ект у Кашалях побач Орлі быў перабудаваны і ўстаноўлена на ім лёгкаатлетычнае абсталяванне запар з суправаджальнай інфраструктурай. Выканана была таксама агароджа коштам у 42 100 зл. Аднак футбалісты ГКП (Gminny Klub Piłkarski) цягам года не разыгрывалі матчаў і нават не трэніравалі на сваім стадыёне. На жаль, такая сітуацыя праўдападобна прадоўжыцца да канца 2018 года. Стадыён пабудаваны, але не ўжываны. Чаму?

Як вынікае з матэрыялаў, прадстаўленых арлянскім радным, выканаўца будаўнічых работ з Забеля пачаў у Кашалях работы на падставе дамовы ад 11 ліпеня 2016 года. Працы былі выкананы коштам звыш 436 тысяч зл. Да 30 чэрвеня 2017 года выканаўца быў абавязаны закончыць рэалізацыю інвестыцыі. 7 ліпеня 2017 г. камісія разгледзела выкананне работы. Беручы пад увагу недахопы, асабліва незадавальняючы стан муравы, работа не была адобрана, а выканаўца абавязаўся выправіць якасць травы шляхам фертылізацыі і падлівання. 19 ліпеня 2017 г. выканаўца паўторна заявіў пра завяршэнне прац і выпраўленне недахопаў. 26 ліпеня камісія сцвердзіла, што трава надалей засохлая і склала пратакол, што гміна даручыць выкананне спецыялістычнай экспертызы дзеля выяўлення прычын усыхання травы і вызначэння дзеянняў для паправы якасці муравы.

4 жніўня 2017 года гміна падпісала дамову на выкананне экспертызы са спецыялістам з Любліна за квоту шасці тысяч зл. з тэрмінам выканання да 31 жніўня. Не зважаючы на гэта, выканаўца пляцоўкі прыслаў у гміну дзве фактуры — адну на квоту амаль у 15 тысяч зл. як канчатковае падвядзенне дамовы і другую на квоту амаль у 21 тысячу зл. за дагляд пляцоўкі, на што не было ніякай дамовы. Абедзве фактуры гміна вярнула выканаўцу як неабгрунтаваныя.

А што паказала экспертыза? Паказала хібы выканання муравы пляцоўкі. Гэтая экспертыза была напраўлена выканаўцу, але той адмовіўся выправіць заганы. У сувязі з тым гміна аб'явіла таргі на заступную направу і даглядныя працэдуры. У назначаны тэрмін заявілася адна фірма з Дубенка каля Любліна, якая запрапанавала выкананне работ за амаль 24 тысяч зл. брута.

6 снежня 2017 года гміна выслала выканаўцы паведамленне, што квота ў амаль 15 тысяч зл. за канчатковы разлік дамовы будзе вылічана па прычыне няправільнага выканання задачы ды пазвала выканаўцу да заплаты гміне дадатковай квоты ў амаль 12 тысяч зл. як недастаючай да аплаты заступнаму выканаўцу даглядных прац.

22 снежня 2017 года на пасяджэнні Самаўрадавай камісіі я спытаў арлянскага войта Пятра Сэльвесюка, што будзе са спартыўнай пляцоўкай і калі футбалісты пачнуць там іграць.

— Пабудаваць пабудавалі, толькі не карыстаемся, — адказаў войт. — Была выканана экспертыза. Хто будзе расплачвацца, вырашыць суд. Я не магу дазволіць, каб спартыўная пляцоўка стаяла нявыкарыстанай. На восень 2018 г. футбалісты будуць іграць.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

# Ішлі калядніку з гвяздамі

У Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета традыцыя калядавання не згіне. Зараз можа не так многа каляднікаў (хлопцаў і дзяўчат) ды гвяздаў, як было ў мае юнацкія гады, але ўсё ж яны ёсць. Некаторыя хадзілі калядаваць з гвяздамі, а іншыя са святой іконкай (я захоўваю такія фотаздымкі, каб перадаць іх маёй дачцэ і ўнучкам). Гвязды былі г.зв. аднарадкі і двухрадкі (у іх было два разы больш г.зв. рагоў з пушыстымі кутасамі з мяккай карбаванай паперы) і, калі іх круцілі адзін рад рагоў круціўся ўлева, а другі ўправа. Цяпер у рэпертуары калядоўшчыкаў ёсць здавён-даўна вядомыя прыгожыя калядныя песні з багагласнікаў, але таксама і новыя песні.



7 студзеня гэтага года на першы дзень Калядаў (Раждзества Хрыстова) у мой дом у Новым Ляўкове прыйшлі дзве групкі калядоўшчыкаў з прыгожымі каляровымі гвяздамі-аднарадкамі з шасцю і сямю рагамі ды рознакаляровымі кутасамі. Адна гвязда была наўкруг г.зв. ліца ды пасярэдзіне яго са шматлікімі лямпачкамі. Сёлета калядавалі толькі хлопцы. Не спяшалі, песні спявалі да канца. Адыходзячы, спявалі «Многае лета» і віншавалі гаспадара з Калядамі і Новым годам. Вялікае ім дзякуй за тое, што не цураюцца свайго і годна прадаўжаюць даўнюю традыцыю калядавання.



*Тэкст і фота Янкі Целушэцкага*

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Філосаф на банкеце

Аднаго філосафа запрасілі ў царскі палац на банкет. І ён сеў разам з гасцямі за сталом, і чакаў свайго тоста. Калі віначэрп паднёс яму віно ў залатым кубку, філосаф устаў і сказаў:

— Добры цар, гэтае віно я п’ю табе на славу!

І выплюхнуў віно з залатога кубка на зямлю.

Князь адказаў са смехам:

— Што з табой філосаф? Ці ты здурнеў?

А той заявіў у адказ:

— Добры цар, ёсць з чаго смяяцца і весяліцца, што віно вылілася на зямлю. А калі б я яго выпіў, то яно зваліла б на зямлю мяне!

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

Андрэй ХАДАНОВІЧ

## Хто жыве на дне ракі?

Хто жыве на дне ракі?
Акуні і шчупакі,
Краснапёрка, ёрш і карп.
(Хто спаймае — мае скарб!)

Ёсць вугры і ёсць ляшчы,
І падводныя карчы,
І прабітыя мячы.
(Ціха, Таня, не пішчы!)

Камяні, пясок і мул,
І бляшанка ад «Red bull»,
Бо не ўсе яшчэ на свеце
Прыбіраюць сваё смецце!

Ёсць русалка й вадзянік,
Што ў астатніх месцах знік.
Быў калісьці нават цмок,
Але выжыць тут не змог.

Ёсць маленькія манеткі
З кашалька вунь той брунеткі,
Што прыедзе зноў сюды.

Ёсць вартаўнікі вады —
Ратавальнік з вадалазам,
Каб не патанулі разам
Усе тыя, хто дарэмна
Лічыць, што тануць прыемна!

## УВАГА КОНКУРС! № 03-18

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 28 студзеня 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Шмат на ім іголак, але ўсе без вушак.**
**В....**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 52:** Зіма, вясна, лета, восень. Узнагароды, кніжкі Свэна Нурдквіста «Як Фіндус згубіўся, калі быў маленькі» выйгралі Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага, Кляўдзія Ніканчук з Нарвы і Гжэгаж Гопш з Вэрстока. Віншуем!

# У Гарадку пра дрэвы, паэзію і жыццё

Вучні трэціх і чацвёртых класаў прыйшлі на сустрэчу з Мірай Лукшай у школьную ізбу памяці. Найбольш ведае пра яе Оля Яроцкая — ужо ліцэістка — яе матэрыял пра Міру Лукшу ў конкурсе пра вядомых беластачан заняў другое месца ў ваяводстве! Гэтую працу пра жыццё і творчасць з вялікай зацікаўленасцю паглядзела і аўтарка, даючыся дзіву, адкуль Оля знайшла яе здымкі з замежных і тутэйшых сустрэч, нават ёй самой невядомыя! Але — ціха! — гарадоцкія вучні маюць сваіх агентаў і ў Бруселі, і ў Лондане, і ў Брне, і ў самім Гарадку! Як, напрыклад, спадар Адам Сяменчык з Гарадка, які гуртуе паэтаў у Лондане! А і яе творчасць вучні ведаюць — вось амаль пагалоўна прынялі ўдзел у конкурсе пра «жывінак з глыбінкі» — тутэйшых жывёлак меншых і большых. Удзельнікі конкурсу, таксама вучні, якія не ходзяць на ўрокі беларускай мовы, шкадавалі, што не змогуць прачытаць самі «Гражынку і Грака», «Падарункаў» ну і вядома — «Спеву дрэў». А кожны хацеў мець гэтую цікавую кнігу вершаў з малюнкамі, якія можна самому размалёўваць. І прачытаць хоць назву расліны, пакуль па-польску, і па-лацінску. Але «Спеў дрэў» трапіць перш за ўсё ў рукі вучняў якія вывучаюць беларускую мову, чытаюць «Ніву» з «Зоркай», дэкламуюць і спяваюць — як адмысловая ўзнагарода.



Вучняў цікавіла перш за ўсё тое, як пачалася прыгода Міры Лукшы з літаратурай. Калі пачала пісаць? Так, калі была вучаніцай, і марыла стаць журналісткай. А можа мастачкай? А пра што былі тыя вершы? Калі першы раз паявіліся ў друку? А тут задала пытанне і аўтарка — хто з вучняў піша для сябе, ці паказвае свае творы камусьці? Можа, маме, настаўніцы?.. Куды можа прынесці свае творы ў Гарадку? Так, напрыклад да пані Хрысціны Гегель у бібліятэку — яна дэбютавала ў «Ніве» ў 1976 годзе, а пасля сваё жыццё прысвяціла кнігам і вучням. Такія размовы застануцца ў памяці, і можа словы складуцца ў вершы, а вершы ў кнігу? Самой Міры Лукшы прыгадалася размова даўно таму ў Гарадку, як на вуліцы Кашаровай размаўляла ў сонечны дзень тады з дзесяцігадовым хлопчыкам, Даркам, вершы якога, вельмі прыгожыя і разумныя, цяпер перакладае. І як тут не «любіць Гарадоцкую зямлю» (шчыры адказ на пытанне), як не хацець пабегаць па завулках ці выганах з футбольным мячыкам? Так, было пытанне пра футбол — аўтарка іграла ў футбол і шчырая яго заўзятарка. А сёння атрымала за гэта прызнанне вялікія бравы; вядома, найбольш ад хлопцаў. І зараз пасля засвярбела ёй ручка і напісаўся новы верш!

**(лук)**



Лукаш АНХІМ
ПШ у Міхалове

## Бобік

Бобік гэта сабака.
Любіць вельмі ежу ён.
Ну а калі ўбачыць костку,
Весела брэша: «Го!»

Ён ходзіць за мной у школу,
І ў магазін па пакупкі,
Доўга мяне чакае,
Але не ўцякае.

Верны гэты сабака.
Кахае суп есці,
І каўбасу, і бульбу,
Любіць усё, што яму дамо.

Калі сумна табе,
Ён цябе хутка развяселіць,
І лізне па руках,
Прыляжа на нагах.

Кароткія чорныя лапы,
Малы хвост,
Бела-чорная пыска.
Гэта Бобік на ўвесь рост!

Наталля ВАСІЛЬЧЫК
ПШ у Нараўцы

## Ноч

Прыйшла ноч.
Цёмна стала.
Трэба спаць.
А я не сплю.
Таму што
Думкі пра школу
Мне спаць не даюць.
Як напісаць
Кантрольную па
Матэматыцы.
Як вершык сказаць.
А калі засну,
Уставаць трэба.
І так нанова...

# Польска-беларуская крыжаванка № 03-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 52-17:**

Лінк, Ніва, касач, сайт, га, мышка, мора, спіс, старонка. Густ, ліга, іва, міс, мост, сыр, каша, лайк, но, стан, шчыліна.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Наталля Петручук** з Нарвы, **Дам'ян Філіманчук**, **Магда Якубюк** з Бельска-Падляшскага, **Матвей Зыскоўскі, Віктар Лінк** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Шыман Івановіч, Ян Лысынкевіч** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Міша Астравецкі** з Міхалова, **Зузанна Мішчук** з Арэшкава. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Opój | | Wspomnienie / Promotor | | | | | | | |
| | | | Ara / Kosmos | | | Łapa | | Major / Jazz | |
| | | | | Park | Lód / Mól | | | | Bierz |
| | | Ar / Om | | Morsy / Nos | | | | | |
| | | Snopek | | | | | Dom | | |
| Karaś | | Młodzież | | | | | | | |
| | | | | | | | | | |
| | | | | | Smak | | | | |






**Уршуля МАРЧУК**
Нараўка
Гайнаўскі белліцэй

## Пісьмо

Я напісала Табе пісьмо.
Пісала адзін дзень, другі,
Неўзабаве агарнула мяне роспач,
Мае вочы зайшліся слязьмі.
Ты прыйшоў да мяне,
Чытаў пісьмо як лірыку,
Хаця вершаў я не пішу.
Для мяне гэта трывала вечнасць,
Толькі Ты не ведаў,
Што я пісала думкай,
А ў маёй руцэ не было пяра.

## Гравітацыя

Гравітацыя.
Што гэта? Гэта штосьці,
што дазваляе нам ступаць па зямлі.
Гэтае штосьці ўчыняе,
што мы можам жыць
у акружэнні прадметаў
і нішто не лётае.
Гравітацыя спалучае нас з зямлёю,
калі б не яна,
мы ўляцелі б у космас.

## Мора

Плыву,
бачу штосьці на гарызонце.
Я зачапляю позірк.
Раптам уцягвае мяне вір.
Тану.
Паказваюцца мне зоркі,
цёмнае неба.
Уяўляю сабе, што жыву,
але інакш.
Я апынулася ў іншым жыцці.
На другім беразе,
дзе няма людзей,
няма крыўды і бяды,
няма нічога.
Толькі я.
Я і Бог,
які даў нам жыццё і шчасце.

Новыя выданні

# Пра дзве кнігі Міры Лукшы

**Летась з друку выйшлі дзве кнігі паэткі і журналісткі Міры Лукшы. Гэта кнігі вершаў „Радаслоў” і „Спеў дрэў”. Прыемны падарунак для паэткі, якая шмат працуе, піша, таму ёсць што выдаваць. „Радаслоў” выйшаў па-беларуску і ў перакладзе на польскую мову.**






Умоўна кнігу вершаў „Радаслоў” Міры Лукшы можна падзяліць на тры раздзелы: слова, свет і радзіма. Дваццаць гадоў таму Уладзімір Юрэвіч выдаў сваю кнігу, якую ён назваў „Слова жывое, роднае, гаваркое...”. Якая цудоўная кніга! „Слова называюць адзеннем думкі, аднак яно не толькі адзенне, а і сама думка чалавечая, адвольная вынаходка, бо ад нашай волі залежыць паўтарыць пачутае ці прачытанае або прамаўчаць, каб спярша падумаць, асвоіць думку, а пасля ўжо казаць як сваё, надта ж асабістае...”, — пісаў Уладзімір Юрэвіч. Вось вершы і думкі Міры Лукшы са зборніка „Радаслоў”, звязаныя са словам: „лязо мовы з любоўю раніць выразае імя” (верш „Слова”); „і ўпала насенне з коласа спелага поўнага і пад камень і паміж асоты і ў чорную глебу і на ўзбочыны тысячы сцежак і заквітнела расліна і кветку сваю аддала вандроўнікам” (верш „Слова”); „вырас на маёй далоні выкліканы словам крываўнік” (верш „Вырас на маёй далоні...”); „рэч жыве ў сваёй вечнасці а не ў тваім слове” (верш „Рэч жыве...”) і г.д. У вершы „Абрад” паэтка прызнаецца, што „я жыву і ў гэтым момант жыве маё слова...”. Дарэчы, як працяг добрай кнігі Уладзіміра Юрэвіча — кніга Міры Лукшы „Жывінкі з глыбінкі” (Беласток, 2009). І ў „Жывінках...”, і ў „Радаслове” ў Міры Лукшы заўсёды жывое слова, лёгкае, зразумелае. Са слоў складаецца мова. Таму нішто так не жывучае, як мова бацькоў і дзядоў, матчына мова. І з гэтым пагаджаецца паэтка і пра гэта яна піша.

Цяпер пра свет. Свет у „Радаслове” — белы. Белы — значыць чысты, светлы, шчыры, добры, ясны, дарагі. Хаця ёсць і той свет, які прайгралі збавіцелі: „наш свет прайгралі збавіцелі”. Так разважае паэтка, але ўсё ж свет у яе радках і думках застаецца белым. Наогул, я не раз пра гэта казаў і пісаў, што беларускія паэты любяць белы колер — колер чысціні. Памятаеце, у Анатоля Сербантовіча радкі:

Сняжынкі — белыя агні,
Кусты малочныя, алеі —
І эталонам чысціні
Мая каханая бялее.

Ці класічныя радкі Алеся Пісьмянкова:

Проста ў вёсцы Белы Камень
Самы белы ў свеце снег.

А ў яшчэ аднаго паэта з Магілёўшчыны Віктара Бяляцкага, які жыве ў Круглым, запомніліся і такія радкі:

Я буду жыць пад белымі снягамі
І не памру, пакуль жыве любоў...

Міра Лукша белы дзень убачыла пасвойму, ён трапяткі, чуллівы, але белы:

Белы бераг белы дзень
Дзень ссякалі ясень падаў
Белы ясень белы свет.
(Верш „Свет”)

Я нават і не прыпомню ніводнай кнігі Міры Лукшы, дзе б яна прамінула Радзіму, Бацькаўшчыну, яе лёсы, лёсы людзей. У новай кнізе ў яе паэзію завіталі Браніслаў Тарашкевіч, Юрка Геніюш, Ян Тарасевіч, Алаіза Пашкевіч, Міхась Шаховіч... Калі ў вершы пра Міхася Шаховіча паэтка просіць прабачэння: „...ты прабач, Міхась...”, а ў вершы пра Юрку Геніюша нагадала, што „ты прытуляў людзей, лячыў лекам і словам, гожы пане ў капелюшы...”, то ў вершы пра Браніслава Тарашкевіча паэтка кажа: „... а праўнукі з гэтага і таго боку часам носяць тваё імя ў школе недаверліва, бо як жа ім верыць у тваё веданне добрага і злога, правага і левага, калі даў ты сябе забіць тымі для якіх і праз якіх твая вера”. Верш „Алаіза Пашкевіч” — сумны. Паэтка ўяўляе Цётку ў белай сукенцы, якую душыць кашаль сухоты...

Верш „Ян Тарасевіч” напісаны ў рыфму, гэта не верлібр. Ён лёгка чытаецца, добра рыфмуецца. Але і ў ім адчуваецца нейкі боль страты: „у Саколцы восень, а дом чакае...”.

Надрукаваны ў зборніку і вершы-прысвячэнні Міхалу Андрасюку, Надзеі Артымовіч і г.д. Ёсць прысвячэнні вуліцам. Вось вуліца Млыновая, Высоцкага, Жураўліная... Ва ўсіх паэтычных радках паэткі прысутнічае філасофія жыцця. Бачна, што аўтарка хоча жывой, натуральнай радасці жыцця, і каб гэта радасць множылася сама сабой, як рэха ў бары, і бегла сама з сабой наперагонкі. І каб сіла гэтага хацення станавілася значнай паэтычнай сілай, якая пераўтварае рэальныя жыццёвыя падзеі і лёсы ў паэтычныя вобразы і ў сапраўдныя вершы.

Зборнік „Спеў дрэў” Міры Лукшы — вельмі арыгінальны, як па задуме, так і па мастацкім аздабленні, па графічным праекце. Часам здаецца, што мастак Міраслаў Здрайкоўскі і дызайнер Адам Паўлоўскі ў нейкай ступені перамаглі аўтарку. Хаця з такімі вопытнымі кніжнымі мастакамі і дызайнерамі, як Міраслаў Здрайкоўскі і Адам Паўлоўскі спаборнічаць цяжка. Вопытныя хлопцы, наадварот, дапамаглі беластоцкай паэтцы яшчэ больш паказаць светаадчуванне, чалавечы давер, натуральнасць і шчырасць пачуцця. А пачуццё пры напісанні такой арыгінальнай кнігі вельмі было патрэбна. Паэтка апісала 42 дрэвы і кусты і ў алфавітным парадку сабрала іх пад адну прыгожую вокладку і пусціла ў свет — да чытачоў. Але гэта не проста голая рыторыка (што бачу, тое і пяю) у апісанні дрэў, а цэлыя маленькія гісторыі, небыліцы, сказы, парады. Вось што раіць паэтка выкарыстоўваць з абляпіхі:

Сок, варэнне, жэле і лікёры,
Чай, алей і напоі, настойкі...
Скарыстае ўсё здаровы і хворы...

Наогул, „Спеў дрэў” Міры Лукшы — гэта цэлая аптэчная энцыклапедыя: ажыны — гэта „бомба вітамінная”, „тваё сэрца як звон будзе біць, калі з глогу лякарствы папіць”, грэцкі арэх „для смаку-спажывы, для здароўя–сілы”, „парэчка-смуродзіна, здароўе дай, на цёмны бераг хвор выганяй...”, а вярба „прагоніць розныя чары”, „многа карысных для нас вітамінаў за лета ўсё назапасіць шыпшына, ад малакроўя ці ад прастуды, ад запалення маем лек цудны...”, а шаўкоўніца „лячэбная ад пят да галавы, а найбольш у дыябеце паможа...” і г.д.

„Спеў дрэў” Міры Лукшы — гэта слоўнік прыказак і прымавак, звязаны з дрэвамі і кустамі, ягадамі і лекамі: „яблыкі ў нас цудадзейныя, хто з’есць, той адразу маладзее”, „у вянчанні маладая за пазухай арэшак ляшчыны трымае, дык будзе цешыцца, гожых сынкоў нараджае”, „нацягну я струну на клёна галіну, каб не забыўся на верну дзяўчыну”, „калі не спеюць ягады рабіны, людзі, добрага лета, цёплай восені вам не будзе...”.

„Спеў дрэў” Міры Лукшы — гэта і вянок карысных парад ад вопытнай паэткі: „не бойся ажынавых шыпоў у агародзе, прыгарні расліну, як сястру ў прыродзе”, „калком арабінавым калі ўдарыш, вернеш ваўкалаку вобраз яго твару”, „шыпшына цвіце ружова, пладом ірдзее, людзям і птушкам на зіму надзея”, „над ложкам галінку вешалі клянову, каб моцы дадала, яркасці, любові”...

„Спеў дрэў” Міры Лукшы — гэта своеасаблівы падручнік для юных чытачоў, якія лёгка змогуць пазнаёміцца з дрэвамі і кустамі, прачытаць пра іх цікавыя радкі і ўбачыць на малюнках. Ды і дарослым кніга гэта абавязкова спадабаецца.

Сяргей ЧЫГРЫН

# Сустрэчы з калядкай

**У «Гайнаўскіх сустрэчах з праваслаўнай калядкай — 2018», якія 10, 11 і 14 студзеня праходзілі ў Гайнаўскім доме культуры, у 30 групах калядавалі пад 570 асоб. Славілі яны Хрыстовае Нараджэнне і кожнага дня ўводзілі шматлікую публіку ў святочны настрой.**

У Гайнаўскім доме культуры ўжо раней арганізаваліся павятовыя і ваяводскія агляды калядных груп, падчас якіх выступалі дарослыя калядднікі з музычных калектываў. Ад 1998 года ў Гайнаўскім белліцэі пачалі ладзіцца «Гайнаўскія сустрэчы з праваслаўнай калядкай» і сталі славіць там Хрыстовае Нараджэнне калядднікі з пачатковых і сярэдніх школ ды дашкольнікі. Іх арганізатарамі былі белліцэй, гайнаўскі гуртoк Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Далучыўся да іх Гайнаўскі дом культуры. Конкурсныя агляды калядавання арганізаваліся ў белліцэі пяць разоў, а пераможцы агляду сталі выступаць у Гайнаўскім доме культуры падчас гала-канцэрта. З 2003 года конкурсныя слуханні і гала-канцэрт «Гайнаўскіх сустрэч з праваслаўнай калядкай» сталі ладзіцца ўжо толькі ў ГДК і так адбываецца па сённяшні час. Іх галоўнымі арганізатарамі з'яўляюцца Дэканальны інстытут праваслаўнай культуры і Аб'яднанне «Любіцелі царкоўнай музыкі», якія дзейнічаюць пры Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы, і Гайнаўскі дом культуры, у канцэртнай зале якога адбываецца калядаванне. Аднак яшчэ з 2003 года, праз некалькі гадоў, іх суарганізатарам быў таксама гайнаўскі гурток Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Колькасць калядоўшчыкаў стала большаць, да іх далучыліся групы дарослых калядднікаў і побач падзелу на ўзрост вучняў паявіліся новыя катэгорыі, у якіх ацэньваюцца калядднікі. Адны калядныя групы робяць стаўку на вяртанне да традыцый і выходзяць калядаваць пераапранутыя ў даўнюю зімовую вопратку і з прыгожа аклеенымі гвяздамі. Іншыя калядднікі зрабілі стаўку на як мага найвышэйшы мастацкі ўзровень выканання калядак. У такіх выпадках яны часта выконваюцца пад наглядам дырыжораў, а калядоўшчыкі выходзяць на сцэну апранутыя ў касцюмы, у якіх прэзентуюцца падчас канцэртаў. Так было таксама падчас сёлетніх «Гайнаўскіх сустрэч з праваслаўнай калядкай». Першыя два дні праходзілі конкурсныя слуханні, а на першы дзень Новага года паводле юліянскага календара адбыўся гала-канцэрт, у час якога запрэзэнтаваліся пераможцы сустрэч. Калядны гала-канцэрт удастоілі епіскап гайнаўскі Павел, праваслаўнае духавенства, стараста Гайнаўскага павета Міраслаў Раманюк, бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч, шматлікія самаўрадаўцы і радныя. Конкурсная камісія, якую ўзначальваў дырэктар Міжнароднага фестывалю «Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі» мітрафорны протаіерэй Міхаіл Негярэвіч, ацэньвала мастацкі ўзровень спеву, звяртала ўвагу на падборку каляднага рэпертуару, яго інтэрпрэтацыю і агульную прэзентацыю груп калядоўшчыкаў.

— Падчас «Гайнаўскіх сустрэч з праваслаўнай калядкай — 2018» калядднікі славяць Хрыстовае Нараджэнне, а мы ў святочны перыяд радуемся і нанова перажываем гэтую незвычайную падзею. Тут падчас калядавання адбываецца інтэграцыя трох пакаленняў — дзетак, іх бацькоў, бабуль і дзядуляў. Прадстаўнікі трох пакаленняў таксама калядуюць на сцэне. Падчас нашых сустрэч мы падтрымліваем нашы праваслаўныя, народныя традыцыі. Адбываецца таксама інтэграцыя мясцовага насельніцтва. Словы калядак аб Хрыстовым Нараджэнні ўводзяць у святочны настрой і натхняюць да роздуму аб сэнсе нашага жыцця, у якога цэнтры знаходзіцца Хрыстос, — сказаў протаіерэй Павел Стэрлінгаў, дырэктар Дэканальнага інстытута праваслаўнай культуры ў Гайнаўцы, які з'яўляецца галоўным арганізатарам калядавання на сцэне ГДК.

У час папярэдніх калядных сустрэч выступалі таксама калядоўшчыкі з Рэспублікі Беларусь, прыязджала калядная група з Украіны. Таму «Гайнаўскія сустрэчы з праваслаўнай калядкай» сталі міжнародным калядным мерапрыемствам.

— Мы стараліся запрэзэнтаваць як мага найдакладней калядаванне, якое адбывалася ў нашых вёсках у мінулым. Нашы вучні выйшлі на сцэну апранутыя ў зімовую вопратку, а дзяўчаты завязалі на галовы модныя ў мінулым хусткі. Мы прынеслі карзінкі для каўбас, яек і іншых прадуктаў, якія дорылі ў мінулым моладзі падчас калядавання, а таксама ўзялі торбачку на грошы. Выступілі з гвяздачкай, якая была неабходнай падчас калядавання, неслі ліхтары, якія рассвятлялі дарогу і спявалі традыцыйныя калядкі пад гукі акардэона, што таксама практыкавалася па нашых сёлах, — скажа пасля выступу калектыву «Званкі» з Гайнаўскага дома культуры яго мастацкі кіраўнік Вера Масайла.

«Званкі» ў ГДК займальна запрэзентаваліся з калядкамі падчас конкурсных слуханняў і, так як іншыя пераможцы, у час гала-канцэрта. Таксама пазней Юлія Корх скажа, што спявала калядкі ў калектыве «Званкі» і яшчэ ў дзіцячым і маладзёжным прыхадскіх харах, якія выступалі адзін пасля другога, але ўдалося пасяхова справіцца са спевам. Усіх калядоўшчыкаў падчас конкурсных слуханняў уводзіла на сцэну снягурачка. Пасля спявання калядак індывідуальныя падарункі калядуючым асобам уручаў Дзед Мароз, а падчас гала-канцэрта ўручаліся ўзнагароды для пераможных калядных груп, калектываў і хароў. Протаіерэй Павел Стэрлінгаў пахваліў вучняў Гайнаўскага белліцэя і Комплексу прафесійных школ у Гайнаўцы за дапамогу пры арганізаванні калядных сустрэч. Конкурсныя слуханні пачыналіся з выступаў дашкольнікаў, якія вельмі шчыра і адначасна займальна славілі Божае Нараджэнне. Выступалі яны ў сваіх святочных уборах, якія ў выпадку некаторых дзетак напаміналі даўнюю народную вопратку. Бацькі або настаўнікі выносілі на сцэну гвяздачкі, што напаміналa традыцыйнае калядаванне.



Лаўрэат першага месца ў катэгорыі парафіяльныя хары Маладзёжны хор Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы



Лаўрэат першага месца ў катэгорыі іншыя выканаўцы «Знічка» з Гайнаўскага белліцэя

Перад гайнавянамі ўдала запрэзэнтаваліся дзве групы дашкольнікаў, якія вучацца ў сваіх садках беларускай мове, нашым традыцыям, танцам і гульням — калектыў «Калебка» з Прадшколля № 1 у Гайнаўцы, які нядаўна таксама цікава выступіў падчас Мастацкіх сустрэч школьнікаў у Гайнаўскім белмузеі з беларускай народнай праграмай, і група калядоўшчыкаў з Прадшколля № 3 з інтэграцыйнымі аддзяленнямі ў Бельску-Падляшскім. Гайнаўскі калектыў «Калебка» атрымаў першае месца, а бельскія дзеткі — трэцяе. Першае месца заняў таксама калектыў «Звёздачкі» з Прадшколля № 5 у Гайнаўцы, а другое месца камісія прызначыла калектыву «Званочкі» з Прадшколля № 3 з інтэграцыйнымі аддзяленнямі ў Гайнаўцы. Вылучэнне атрымалі калектыў «Сундучок» з Непублічнага прадшколля святых Кірыла і Мяфодзія ў Гайнаўцы і калектыў «Жамчужынкі» з Прадшколля № 2 у Гайнаўцы.

— У нашым бельскім прадшколлі я з настаўніцай Аляўтынай Макацэвіч займаемся з групай дзетак, якія вучацца беларускім словам, знаёмяцца з нашымі традыцыямі, гульнямі, песнямі. Запрашаем мы на нашы заняткі асоб, якія распавядаюць пра нашы традыцыі. Трэба дзеткам растлумачыць значэнне розных слоў, а ў выпадку калядавання значэнне цэлай калядкі. Нашы дзеткі ахвотна вучацца новаму, — адзначыла настаўніца Іаанна Петручук з Прадшколля № 3 у Бельску. Намесніца дырэктара гэтага прадшколля Данута Зіноўчык заявіла, што бацькі ахвотна пасылаюць сваіх дзетак на вучобу ў садку сваёй мове і беларускім традыцыям.

У катэгорыі пачатковых школ усе калядоўшчыкі запрэзэнтаваліся цікава. Першае месца заняла малодшая група беларускага калектыву «Сунічкі» са Школьна-дадшкольнага комплексу ў Белавежы, другое месца камісія прызначыла старэйшай групе калектыву «Сунічкі» з Белавежы і калектыву з Пачатковай школы ў Чыжах. Трэцяе месца занялі хор Пачатковай школы № 2 з інтэграцыйнымі аддзяленнямі ў Гайнаўцы і калектыў «Гіп-топ» з Пачатковай школы № 4 у Гайнаўцы, які выступіў з інструментальным калектывам. Парафіяльныя хары выступілі займальна, а ў катэгорыі прыхадскіх хароў першае месца занялі Маладзёжны хор Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы і хор «Гармонь» Праваслаўнага прыхода ў Ласінцы.

— У кампаніі «Гармонь» ходзім яшчэ калядаваць па Ласінцы і бачым, што памятаюцца святы Раства Хрыстовага на вёсцы. Раней амаль у кожную хату прыязджалі дзеці з гарадоў, адбываліся гасцяванні. Зараз гасцін штораз менш. Калі дзеці жывуць далёка ад бацькоўскай хаты, то штораз часцей святкуюць Божае Нараджэнне ў сваіх гарадах. Сёлета ўжо і калядаваць з гвяздамі хадзіла па Ласінцы мала груп, — сказаў Раман Пашко з хору «Гармонь».

Другое месца сярод парафіяльных хароў заняў хор Праваслаўнага прыхода ў Арэшкаве, трэцяе месца камісія прызначыла Дзіцячаму хору Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы і Дзіцячаму хору «Шышкін лес» прыхода Нараджэння святога Іаана Хрысціцеля ў Гайнаўцы. Калядднікі ў катэгорыі малодшыя групы калядоўшчыкаў таксама захапілі публіку сваім майстэрствам спеву. Першае месца заняла тут Студыя песні Гайнаўскага дома культуры, а трэція месцы камісія прызначыла калектыву «Званкі» з ГДК і калектыву «Мікстура» з Асяродка культуры ў Кляшчэлях.

Старэйшыя групы калядоўшчыкаў запрэзэнтавалі перш за ўсё традыцыйнае калядаванне, якое памятаюць яшчэ са сваёй моладасці і, канешне, такімі выступамі асабліва зацікавілі публіку. Сярод іх першае месца заняў калектыў «Чыжавяне» з Чыжоў, другое месца — «Жаваранкі» з Махнатага, а трэцяе месца — «Верасы» з Чыжоў і група калядоўшчыкаў з Мора. У катэгорыі іншыя выканаўцы выступы таксама былі займальнымі, а першае месца занялі калектыў «Знічка» Гайнаўскага белліцэя і хор Грамадскай музычнай школы першай ступені ў Гайнаўцы.

— Мы падрыхтавалі новыя калядкі на сённяшні конкурсны выступ і рыхтуем новы беларускі рэпертуар на фестываль «Беларуская песня», — заявіла Бажэна Вінцонак, музычны кіраўнік «Знічкі».

Другое месца ў гэтай катэгорыі занялі беларускі калектыў «Рэха пушчы» Гайнаўскага дома культуры і калектыў «Васклікнавенне» з Гайнаўкі. Трэцяе месца заняў Хор леснікоў Белавежскай пушчы, а спецыяльныя ўзнагароды журы прысвоіла калектыву калядоўшчыкаў са Спецыяльнага школьна-выхаваўчага асяродка ў Гайнаўцы і калектыву Майстэрні працатэрапіі, якія дзейнічае пры Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

1 ☞працяг

# Сустрэчы
## на Гагатуху і Вадохрышча

— «Хрысток» гэта дубовая галінка з засушанымі лісткамі. Калі мы былі дзеткамі, то падчас Хрышчэння Гасподняга, заспяваўшы ў паасобных хатах з асаблівым напевам песню «Панна Марыя на прыстолі стояла» і павіншаваўшы гаспадароў са святам, дорылі ім «хрысток». За гэта мы атрымлівалі аладкі, цукеркі, іншыя ласункі і ішлі ў чарговую хату. Добра, што Дарафей Фіёнік аднавіў абрад калядавання з «хрыстком» падчас Вадохрышча ў Арэшкаве, які мясцовыя жыхары прызабылі. Нам таксама цікава было паслухаць калядкі ў выкананні малодых калядоўшчыкаў з Беларусі і Бельска, — сказала мне раней Надзея Грушэўская з Арэшкава, якая ў мінулым кіравала дзейнасцю славутых «Арэшкаў».

Публіку ў белліцэі зацікавіў таксама Узорны фальклорны ансамбль «Калыханка» Міханавіцкага цэнтра культуры, якога стваральніцай і мастацкім кіраўніком з'яўляецца Ларыса Рыжкова. Маладыя спевакі з «Калыханкі», апранутыя ў народныя ўборы, займальна запрэзентаваліся з калядным рэпертуарам. Аднак у рэпертуары калектыву «Калыханка» ёсць перш за ўсё абрадавыя і іншыя фальклорныя песні, а ў ліку іх раждзэственскія і шчадроўскія творы, таксама даўнія танцы і народныя гульні дзетак з розных рэгіёнаў Беларусі. «Калыханка» — адзін з нешматлікіх калектываў у Беларусі, які збірае дзіцячую гульнявую спадчыну, а падчас сваёй дзейнасці больш за дзесяць разоў выступала падчас мерапрыемстваў у Польшчы, паказвала беларускі фальклор у Малдове, Нямеччыне, Расеі, Украіне, Сербіі.

— Мы вучымся ад пажылых людзей нашым даўнім традыцыям і можна сказаць, што пераймаем ад іх даўні фальклор, а маладыя ўдзельнікі нашага калектыву з паважаннем ставяцца да нашай народнай культуры. Я стварыла «Калыханку» яшчэ ў 1989 годзе. Зараз прыехаў са мной ужо сёмы склад нашага ансамбля, каб запрэзентаваць не толькі калядкі, але і нашы даўнія калядныя гульні падчас Шчодрага вечара, — сказала мастацкі кіраўнік «Калыханкі» Ларыса Рыжкова. Па-акцёрску калядаваў беларускі калектыў Бельскага белліцэя «Спадчына». Таксама займальна выступілі з калядкамі прадстаўнікі ўсіх першых і другіх класаў разам са сваімі выхавацелямі. Трэба было заспяваць па дзве калядкі, а адну з іх на беларускай мове. Першакласнікі і другакласнікі падчас сваіх выступаў запрэзентавалі вельмі багаты і цікавы калядны рэпертуар. Пры гэтым умела спявалі калядкі пад акампанемент музычных інструментаў, часта выступаючы з прыгожай гвяздачкай. Мне асабліва спадабаўся выступ класа I «б», у якім спявалі члены «Жэмэрвы», што пачалі вучыцца ў белліцэі. З маімі назіраннямі згадзіўся дырэктар Андрэй Сцепанюк, які сказаў, што калядаванне перад школьнай публікай гэта выклік для вучняў і іх выхавацеляў, але разам з іншымі агульнашкольнымі мерапрыемствамі будуе своеасаблівую сямейную атмасферу ў белліцэі. Сустрэча была цікавай не толькі з-за багатага каляднага рэпертуару, але таксама з-за знаёмства з новым для белліцэістаў і цікавым фальклорным рэпертуарам.

❖Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**


■ Клас I «б»


■ Калектыў Бельскага белліцэя «Спадчына»



# www.fair-play.by

Напрыканцы леташняга кастрычніка ў сваім 44-м нумары „Ніва" ўжо пісала пра „Дзіцячы футбольны клуб", што дзейнічае ў Беларусі на Ашмяншчыне. Цікавасць да яго выклікаў у першую чаргу цалкам беларускамоўны сайт арганізацыі, бо звычайна спорт у Беларусі амаль увесь рускамоўны. Але беларускамоўнасць сайта „Дзіцячага футбольнага клуба" мае сваю гісторыю, бо, як сцвярджаецца на ім, уласна клуб стаў нашчадкам існаваўшай у Ашмянах у 2012-2017 гадах футбольнай акадэміі Fair Play (сумленная гульня). Праўда, калі зайсці на сайт гэтай акадэміі, які месціцца па адрасе **www.fair-play.by**, то ўзнікае сумнеў у заканчэнні яе існавання, бо ў адрозненні ад сайта клуба, сайт акадэміі мае навіны, датаваныя 2018 годам. Праўдападобна, што Fair Play у Ашмянах па-ранейшаму дзейнічае, а значыць вартая таго, каб пра яе распавесці.

Сайт футбольнай акадэміі па будове падобны на сайт „Дзіцячага футбольнага клуба". Таксама як у клуба ў левым верхнім вугле месціцца эмблема. „Футбольная акадэмія Fair Play" (да жніўня 2014 г. насіла назву прыватная футбольная школа „Нёман" Ашмяны) паўстала напрыканцы 2012 г. На дадзены момант мы застаемся першай прыватнай футбольнай школай у Гродзенскай вобласці. У сваёй працы мы арыентуемся на вопыт вядучых футбольных краін і ставім сабе за мэту развіццё масавага футбола, які з'яўляецца передумовай паспяховага развіцця футбола прафесійнага", — так прэзентуюць акадэмію яе ўладальнікі на галоўнай старонцы сайта, дзе як і на сайце футбольнага клуба месціцца адзін і той жа фотаздымак трэнера Аляксандра Кушнера і яго выхаванцаў.

Калі параўноўваць абодва сайты, то заўважна, што Кушнер з'яўляецца кіраўніком футбольнай акадэміі, а ў футбольным клубе ён кіруе трэніровачным працэсам, развязвае арганізацыйныя пытанні. Акрамя таго, на сайце акадэміі яскрава бачны больш грунтоўны падыход да ідэйнага зместу заняткаў дзяцей футболам. „Дзіцячы футбол і дарослы футбол з'яўляюцца цалкам супрацьлеглымі паняткамі. Праца з юнымі футбалістамі павінна грунтавацца толькі на патрэбах дзяцей, іх зацікаўленасцях і памкненнях. Вынік спаборніцтваў у дзіцячым футболе не мае значэння. Наданне надзвычайнай увагі канчатковаму выніку гульні альбо спаборніцтваў — недапушчальна. Дзеці не павінны знаходзіцца пад ціскам чаканняў сваіх бацькоў, якія спадзяюцца, што іх дзіця заўсёды будзе перамагаць у спаборніцтвах. Дзіцячы футбол гэта перш за ўсё забава, якая павінна асацыявацца ў дзяцей з атрыманнем задавальнення ад заняткаў футболам і спрыяць іх паступоваму футбольнаму развіццю", — так апісваецца філасофія дзіцячага футбола на сайце акадэміі. Гэтага апісання няма на сайце футбольнага клуба.

Інфармацыю, змешчаную на старонцы „Памятка для бацькоў", варта было б перанесці і на іншыя сайты дзіцячых футбольных каманд. „Прывёўшы сваё дзіця ў футбольную школу, нават не спрабуйце патрабаваць ад яго выконваць тое, што ён зараз выконваць не ўмее, і, у прынцыпе, выконваць не павінен. Гэта як у агульна адукацыйнай школе: прывёўшы дзіця ў 1-ую класу вы, напэўна, не просіце яго выкладчыцу ці выкладчыка адукоўваць вашае дзіця адразу па праграме, напрыклад, 7-ай класы?" — адзначае Fair Play.

❖**Аляксандр ЯКІМЮК**

# Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара


Беларускі пасольскі клуб. Фабіян Ярэміч знізу ў цэнтры

Падзеі і асобы БНР



### 20 студзеня — дзень нараджэння

# Фабіяна Ярэміча

Беларускі грамадска-палітычны дзеяч Фабіян Ярэміч нарадзіўся 20 студзеня 1891 г. у вёсцы Дуляўцы каля Росі (Ваўкавыскі раён). Паходзіў з беларускай каталіцкай сялянскай сям'і Мацея і Юзэфы з Маршалкаў. Закончыўшы царкоўна-прыхадскую школу, пайшоў у свет шукаць лепшай долі. Маці яго памерла заўчасна. Бацька паўторна ажаніўся, меў яшчэ шасцёра дзяцей. Фабіян скончыў электратэхнічную школу ажно ў Пецярбургу. У 1912 г. патрапіў у турму за сацыял-дэмакратычную працу і прапаганду сярод тэлеграфістаў. Атрымаў пасаду старшага назіральніка на піцерскай тэлефоннай станцыі, на якой прычакаў Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. Тады пераехаў у Вільню, з якой родам была яго ная жонка Апалонія (Польдзя), дачка агранома Урбана. У 1919 г. стаў там начальнікам тэлефонна-тэлеграфнай станцыі. Быў ім да 1922 г. Быў старшынёй Віленскага беларускага нацыянальнага камітэта. Абраны дэлегатам і ўдзельнічаў у працы Першага Усебеларускага з'езда ў снежні 1917 г. Сябра прэзідыума Беларускай рады Віленшчыны і Гарадзеншчыны. Сябра Рады БНР у 1918 г. У 1919-1922 гг. працаваў начальнікам тэлефоннай станцыі ў Вільні.

У польскамоўных крыніцах, на падставе архіўных звестак сцвярджаецца, што Фабіян Ярэміч ваяваў на польскім баку ў час польска-бальшавіцкай вайны ў Беларускім палку стральцоў. За гэта ў 1930-я гг. атрымаў як вайсковы асаднік зямлю на паўночна-ўсходніх крэсах, быў чальцом Аб'яднання асаднікаў. Аднак беларускія гісторыкі даводзяць, што гэта быў зусім іншы чалавек з такім жа прозвішчам.

Фабіян Ярэміч тройчы абіраўся дэпутатам сейма Польшчы ў 1922-1935 гг. Стаў старшынёй Беларускага пасольскага клуба (1925-1930) пасля выхаду адтуль Браніслава Тарашкевіча. Актыўна ўдзельнічаў у працы Таварыства беларускай школы. У 1925 г. быў адным з заснавальнікаў і лідараў Беларускага сялянскага саюза, у 1926 г. — Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. Быў выдаўцом газеты „Сялянская ніва" (1925-1930). У 1926 г. у складзе польскай парламенцкай дэлегацыі (у яе ўваходзіў таксама Пётр Мятла) наведаў БССР. У 1927 г. Ярэміч разам з Васілём Рагулям занялі прынцыповую пазіцыю ў справе разгрому Беларускай сялянска-работніцкай грамады. У лютым на сейме Ярэміч, хоць і не падзяляў сацыяльных і эканамічных поглядаў Грамады і тым больш вельмі крытычна ставіўся да палітыкі камуністычнага кіраўніцтва БССР, выступіў у падтрымку грамадоўцаў і спрабаваў не дапусціць суду над імі. А ў 1928 г. Фабіян Ярэміч на кароткі час быў сам арыштаваны з фармулёўкай „за антыпольскую дзейнасць".

У час Другой сусветнай вайны Ярэміч працаваў у органах нямецкай акупацыйнай адміністрацыі ў Менску і Барысаве. Удзельнічаў у Другім Усебеларускім кангрэсе ў 1944 г., быў у яго прэзідыуме. У канцы вайны не з'ехаў на захад і быў арыштаваны НКВД у 1945 г. Зняволены ў савецкі канцлагер, дзе быў ажно да 1956 г. Пасля вярнуўся ў Вільню, дзе дажываў два апошнія свае гады. Памёр у сваім доме ў Калоніі пад Вільняй (цяпер раён Павільнюс) ад інсульту пасля цяжкай працы ў агародзе. Пахаваны на Павіленскіх могілках. Помнік нядаўна зменены, а прозвішча на ім цяпер напісана на чужы капыл — „Еремич".

Можна сказаць, што лёс Фабіяна Ярэміча склаўся як у многіх беларускіх дзеячаў першай паловы дваццатага стагоддзя — з усімі супярэчнасцямі, пошукамі свайго, праблемамі, рэпрэсіямі няпростага перыяду.

❖**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Успамін пра Яўгена Смольскага

**Яўген Смольскі**, жыхар Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета пастаянна чытаў беларускі штотыднёвік «Ніва». Напрыканцы мінулага года я завёз яму наш родны часопіс з беларускім календаром на 2018 год. Дома былі Яўген і ягоная жонка Яўгенія. Я, гмінны радны і солтыс Новага Ляўкова, а перш-наперш аднавясковец, быў даволі частым госцем у іх хаце. Спадар Яўген заўсёды рады быў майму прыходу, быў цікавы навін. Так і ў гэты раз мы расказалі сабе, што новага ў вёсцы, а было пра што, між іншым, ад 1 снежня 2017 года пачаў ездзіць аўтобус ПКС у Новае Ляўкова (не было яго два гады) ды якія мерапрыемствы зараз ладзяць пенсіянеры ў Нараўцы і ў Старым Ляўкове.

Я. Смольскі — жыццярадасны чалавек, гарнуўся да людзей. Ён актыўны член праўлення нараўчанскай раённай пенсіянерскай арганізацыі. Не прамінуў ён ніводнага летняга беларускага фэсту ў Нараўчанскай і ў суседніх гмінах, а таксама ў Гайнаўцы і ў Белавежы. Не забракла яго на ніводным Купаллі. Любіў беларускую музыку і спеў. Уключаўся ў арганізацыю пенсіянерскіх забаўляльных вечарын. Пагутарылі мы і пра надзённыя справы жыхароў вёскі.

Прыйшла пара развітацца. Спадар Яўген падаў мне ў руку і цукеркі. Ён меў такі звычай. Не адыдзеш з яго дома без цукеркаў. Найперш вазьмі, а тады пойдзеш. Ніхто не мог прадбачыць, што будзе гэта наша... апошняя сустрэча, што больш не пачую поціску яго рукі.

Яўген Смольскі застанецца ў маёй памяці як сардэчны, уражлівы і чулы чалавек. Пару гадоў таму патэлефанаваў мне ў халодны зімні вечар і папрасіў, каб я, як солтыс, пацікавіўся, чаму два, а то і тры дні няма слядоў на снезе на панадворку аднаго самотнага чалавека. Ён ехаў і бачыў занесеныя, навеяныя мяцеліцай сумёты снегу. Я наведаў самотнага мужчыну. Аказалася, што ён захварэў грыпам. У хаце была халодная печ г.зв. сцяноўка. Я ведаў, дзе складзены сухія дровы ў аднавяскоўца. Запалілі ў печы. Запытаў, што зараз яму прынесці з харчовых прадуктаў. Прыйшоў я ў свой дом і пазваніў Яўгену. А назаўтра мы з ім паехалі на яго аўтамашыне ў Нараўку і прывезлі дзве г.зв. пачкі з рознымі харчовымі прадуктамі. Другую пачку мы завезлі іншаму мужчыну, які жыў самотна на калёніі за лесам.

Спадар Яўген ніколі не адмовіў падвезці на сваёй аўтамашыне. Між іншым, пару разоў прывёз мяне з Нараўкі або завёз у Нараўку, калі там адбываліся культурна-забаўляльныя мерапрыемствы. Убачыць ідучага ў дарозе, забярэ і падвязе дадому. Бывала любіў пажартаваць. Казаў мне: «Ты, Янка, не можаш быць солтысам, бо ты не гаспадар, не маеш гектараў, кароў і коней ды і не маеш аўтамашыны».

Падчас нашых сустрэч у ягоным доме я даведаўся, што ён пісаў гісторыю сваёй роднай вёскі Лука. Яе залілі вадою і зараз тут Семяноўскае возера. Частку яго запісаў надрукавалі два гады таму ў нараўчанскім штоквартальніку «Над Нараўкай». Прабаваў ён пісаць вершы (былі яны ўдалыя), але чамусьці пакінуў імі займацца. Свае ўспаміны спісаў прозай.

Яўген Смольскі 2 студзеня гэтага года паехаў у свой лес па «жывую» елачку. На Каляды. Паклаў елачку ў багажнік самахода. І тут, на прыродзе, яго сэрца перастала працаваць. Ён адышоў ад нас на 80-м годзе жыцця. Няхай зямля будзе яму пухам!

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Прыгожыя драўляныя дамы

У Новым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета ёсць 43 драўляныя дамы, некаторыя з іх з прыгожымі ганачкамі або верандамі ды ўпрыгожаннем-арнаментам на вуглах, з аканіцамі. Яны былі пабудаваны з сасновых бярвён. Драўляныя дамы найбольш прыязныя для чалавека. Свае дамы аднавілі, між іншым, Крыстына і Ян Грэсікі, Паўліна і Юрый Сухадолы, Марыя і Віталь Харкевічы, Марыя і Міхал Саевічы, Марыя і Сяргей Саевічы, Марыя і Мікалай Пучынскія, Людміла і Барыс Казлоўскія, Галіна і Юрый Казлоўскія, Галіна Целушэцкая, Галіна і Аляксандр Скепкі, Вольга і Віталь Скепкі, Марыя і Павел Красноўскія ды Міхал Антонюк.

Амаль усе яны рамантавалі перш-наперш дахі (перакрывалі іх нанава памаляванай бляхай), паўстаўлялі новыя вокны і дзверы, памалявалі сцены. У двух дамах сцены абабілі белым сайдынгам. Пры трох дамах дабудавалі веранды і ў адным ганачак. Восем дамоў абгарадзілі новымі частаколамі або сеткай. Пры трох пасадзілі дрэўцы ды кусцікі бэзу, чароміх і язміну. Вёска папрыгажэла.

У 2016 годзе двух жыхароў Любліна купілі невялікі пляц на калёніі Новага Ляўкова і паставілі новы прыгожы драўляны дом. Прыязджаюць летам і восенню. Падабаецца ім наша ваколіца з лясамі ды рэчкамі Нараўкай і Нарвай.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Пліскі ў студзені? Гэта магчымае!

Былі гады, калі грыбнікі збіралі ў лесе асеннія грыбы — зялёнкі і падзялёнкі ў канцы лістапада і ў пачатку снежня. Мой брат, жыхар Новага Ляўкова, што ў Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета, паехаў аднойчы раніцай па зялёнкі ў снежні. А як жа і збіраў іх да тае пары, покуль у сярэдзіне дня не разгулялася мяцеліца. Пад снегам не далося б шукаць грыбы і тады ён вярнуўся дадому.

9 студзеня гэтага года сустрэў я на дарозе аднавяскоўца з Новага Ляўкова Юрку Казлоўскага. Ён вялікі грыбнік, любіць лес, у якім найлепш адпачывае. Спадар Юрка нёс з лесу дадому... прыгожыя здаравенькія жоўтыя пліскі. Назбіраў іх у хваёвым лесе (у нашай гміне і ваколіцы такія пераважаюць) непадалёк Новага Ляўкова. Пайшоў у лес на прагулку, прайшоўся да вядомых сабе грыбных месцах і быў вельмі здзіўлены, калі ўбачыў... пліскі. Пліскі ў студзені? Яшчэ гэтага не бывала! Хаця, як вядома, да гэтае пары надвор'е было аднасна цёплае і мокрае. Адзін раз выпаў снег, але ляжаў ён коратка. **(яц)**

**СПАЧУВАННІ**

Шчырыя словы спачування нашаму сябру спадару **Міхалу Стэльмашуку** і Яго сям'і з прычыны напаткаўшага Яго гора – смерці **маці Анны**.

**рэдакцыя Нівы**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — лацінскую пагаворку.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| | | | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |

1. неглыбокае месца на ўсю шырыню ракі, зручнае для пераходу або пераезду = 3 _ 4 _ 2 _ 1 _;
2. маці Каіна і Авеля = 6 _ 9 _ 10 _;
3. вобад, які круціцца на восі дзеля перамяшчэння сродкаў транспарту = 7 _ 23 _ 24 _ 8 _;
4. славянская багіня любві і красы, як папулярная савецкая легкавушка = 12 _ 13 _ 11 _ 5 _;
5. яўрэйскія тонкія пасхальныя праснакі = 22 _ 21 _ 20 _ 25 _;
6. блакітнае пры сонцы, зорнае без яго = 14 _ 15 _ 16 _ 17 _;
7. Іосіф Броз, югаслаўскі лідар = 19 _ 18 _ 26 _ 27 _.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 53 нумара**

Аса, вырай, дзед, еўра, ксёндз, мыс, Піна, поза, Рагнеда, шып.

Рашэнне: **Першы снег выпадае за сорак дзён да сапраўднай зімы**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 21.01 — 27.01

**(22.03. — 20.04.)** Памалу будзеш выходзіць на простую дарогу. Сітуацыя сінглаў яшчэ не зменіцца. Перастанеш шкадаваць і забудзешся. Паявіцца шанц на знаёмства з кімсьці прывабным. Не пераймайся хатняй драбязой. Трэба будзе актыўна дзейнічаць на прафесійным полі і брацца за рызыкоўныя рашэнні. Скончацца інтрыгі на працы, што не значыць, што саперніцтва будзе здаровае і сумленнае. 26-27.01. будзь тактычны і нікога не абражай.

**(21.04. — 21.05.)** Жыццё ідзе ў добрым напрамку. Прытрапяцца добрыя нагоды. Можа назаляць табе зацікаўленасць адной асобы, а пазбыцца залётніка будзе цяжка і каштоўна. Не дай сябе ўцягнуць у саперніцтва; калі нават выйграеш, не паправіць гэта атмасферы. Найлепш з працай ладзіцца ў Быкоў з другой дэкады. Магчымыя перашкоды ў працы, але пераможаш іх, калі змабілізуешся. Проста, трэба будзе пазмагацца за тое, што дасюль давалася лёгка.

**(22.05. — 22.06.)** Сонца паможа табе ў рэалізацыі намераў. Але 21-23.01. можаш не ўцячы ад памылак. 23-26.01. рашыся на нялёгкую, але плённую размову. Не вер у хуткія багатыя прыбыткі, бо можаш спазнаць цвёрды сутык з рэальнасцю. Пасля 26.01. на тваю сферу партнёрства пачне ўздзейнічаць Марс — паявяцца новыя шанцы і нагоды вартыя спакусы.

**(23.06. — 23.07.)** Прыйдзецца пазмагацца з сабою самім і праціўнікамі. Справішся! Варта табе зацікавіцца неканвенцыянальным лячэннем, асабліва масажам камянямі. 24-26.01. інтэлігентна і зласліва пасадзіш на месца не аднаго брахуна. 26-28.01. канкурэнцыя будзе ў баявітым настроі, дык пільнуйся.

**(24.07. — 23.08.)** Можаш быць пастаўлены ў няясных сітуацыях, калі правільная ацэнка цьмяная. Твой рэйтынг у кампаніі ўзрасце; шмат запрашэнняў. Маеш шанц сустрэць кагосьці, хто на цябе заслугоўвае. Цяпер ты вельмі дзейнічаеш на іншы пол. Не адмаўляйся ад сустрэч! Народжаныя ў апошняй дэкадзе знака будуць мець асаблівае шанцаванне ва ўсім. Вельмі дбай аб сваё горла.

**(24.08. — 23.09.)** Чакаюць цябе новыя выклікі і заданні. Хуткі тэмп жыцця. Настрой някепскі, без цяжкасцей зрэалізуеш свае мары. 21-23.01. глядзі, каб хтосьці тваіх жартаў не ўспрыняў усур'ёз. 24-26.01. можаш паспяхова пераняць мэблю ў хаце, знайсці новае жыллё. Не падвядзе цябе ў гэтым густ. Дзева з трэцяй дэкады няхай актыўна ўдзельнічае ў праектах і сустрэчах, асабліва 23-26.01. — тады заззяеш, не паддасіся, калі іншыя апусцяць рукі. Шукаючы працу, цвёрда негацыюй умовы. 26-27.01. трэба будзе ў апошнюю хвіліну памяняць планы.

**(24.09. — 23.10.)** Адкрыеш перад сабою новыя перспектывы. Удасца пазмагацца за большыя грошы. У хатніх і сяброўскіх справах выйдзе на тваё. Сардэчныя турботы сяброў ужо табе абрыднуць і больш не будзеш пасрэднічаць у іх справах. Выпішы свае моцныя бакі і зацікаўленні, можа народзіцца нейкая ідэя на ўласны інтарэс? Развесяляць цябе пакупкі. А Шалі з другой дэкады няхай глядзяць што маюць на талерцы. Можаце вырасціць жывоцік!!

**(24.10. — 22.11.)** Вялікая энергія. Не адмаўляйся ад ніякай задумы, якая прыйдзе табе ў галаву 24-26.01. 20-21.01. зможаш прадставіць свае рацыі ў размове. На працы засяродзься на найважнейшым. Шукаючы працу, наляж на распытванне і знаёмствы 23-26.01. Народжаныя ў другой дэкадзе — піце зялёную ці белую гарбату замест кавы.

**(23.11. — 22.12.)** У пачуццях і прафесіі не найлепш, затое можаш зарабіць сапраўды немалыя грошы. Праўда, лепш у сардэчных справах. Прыемна будзе працаваць разам — пры рамонце, плануючы канікулы. 24-26.01. варта адгрэбці старыя задумы, пакінутыя праекты — будзеш ведаць, як ім даць новае жыццё. Новую працу цяпер хутчэй не знойдзеш. Але зможаш прадаць нават лёд эскімосам! Еж горкі шакалад.

**(23.12. — 20.01.)** 20-21.01. паявіцца шанц, які дасць табе магчымасць перасунуцца, пашырыць дзейнасць, выплысці на шырокія воды. Але 21-23.01. можаш апынуцца ў пастцы; кожнае рашэнне можа быць благім. Але 24-26.01. — час спрыяе развою тваіх інтарэсаў і рэалізацыі задум. Грошай — хоць заваліся! 26-28.01. стрымай злосць і вострыя словы — не будзеш чакаць найгоршага!

**(21.01. — 19.02.)** Неба над табой распагодзіцца! Вельмі прыемна, забаўна — аж да канца месяца. Крызісы можна развязаць пры добрай волі абодвух бакоў. Не занядбоўвай неадкладных спраў. З тваіх геніяльных задум нічога не будзе, калі іх не пачнеш ажыццяўляць. Няхай да гэтага хопіць табе цярплівасці! І кантралюй выдаткі!

**(20.02. — 21.03.)** 24-26.01. чакае цябе вельмі цікавая сустрэча. Сіла, адвага, рамантычнасць. А будуць кружыць вакол цябе людзі, якім схочацца пакарыстацца тваім коштам, бо часта ты ўступаў дарогу. А ў цябе будзе сіла пазмагацца за сваё! Дасі рады канкурэнцыі. А будзеш яшчэ займацца практычным бокам свайго жыцця. Пераможаш цяжкасці, аформіш усе справы.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7:00 – 18:00.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

**На чыгуначным прыпынку Новы Нурэц апрача мяне выходзіць з поезда яшчэ двое пасажыраў. Яны таропка шагаюць у вёску Нурэц, а я прыглядаюся пачакальні. Пустуе яна ўжо здаўна і нясе ў сабе запіс тых знішчальных падзей, якія адбыліся з прагрэсам абязлюдзення чыгуначнага пасажырства. На сцяне красуецца расклад язды цягнікоў дваццацігадовай даўнасці...**

У пачатку вёскі жалезны крыж на каменным пастаменце, а на ім дата напісана так, што можна яе аднесці да 1977 года, а можна таксама падумаць, што крыж пастаўлены сто гадоў раней. І верагодна, што гэтая апошняя версія сапраўдная, бо крыж лацінскі і мабыць паставілі яго колішнія ўласнікі маёнтка, што быў распалажаны зараз за вёскай.

Да адной з фортак выйшла жанчына, мабыць пабачыць, каго прывёз цягнік у ейную вёску. Пытаю яе пра забудову колішняга маёнтка. Яна інфармуе мяне, прывязваючы ўсе каардынаты да свайго ўчастка, што распалажаны паблізу даўняга двара, побач дарогі ў Рагачы. Падаюся ў падказаным напрамку...

За Нурцом багатая гісторыя, якая захавалася ўжо толькі ў архіўных дакументах. Тут ужо быў рух у XV стагоддзі. Першым уласнікам шырокіх мясцовых зямель быў нейкі Тур. Чаму ў яго такое прозвішча — загадка, але ж у ходзе запісвання менавіта прозвішчаў паяўляўся ў дакументах вялікі спісак пасажыраў Ноевага каўчэга. Магчыма, што род Тураў быў звязаны з мясцовасцю на Прыпяці, якая ў Сярэднявякоўі была цэнтрам Тураўскага княства і з якой выводзіўся быў славуты прападведнік Кірыла Тураўскі, якога, як паведамляе энцыклапедычны даведнік „Беларусь", некаторыя даследчыкі даўніны лічаць аўтарам „Слова аб паходзе Ігаравым"...

А пасля Нурэц пераходзіў пад панаванне ўладароў, у якіх былі іншыя прозвішчы, і амаль кожны з уладальнікаў тых прозвішчаў унёс свой уклад у існуючы ў Нурцы маёнтак. Не адным Нурцом уладарылі яны, але таксама Клюковічамі, Зубачамі, Полаўцамі ці Лумнай. У канцы XVIII стагоддзя нурэцкі маёнтак так апісвае інфарматар: „Powstał wtedy klasycystyczny park reprezentujący wysoki poziom sztuki ogrodowej. Otaczał on modrzewiowy pałac o 60 pokojach, połączony ze stojącą obok oranżerią. Oś główna łączyła aleję dojazdową (odchodzącą od drogi do wsi), groblę między dwoma lub trzema stawami na strumieniu, dziedziniec przed pałacem, pałac, partery ogrodowe, krzyżowy kanał i aleję za kanałem. Partery zajmowały półkoliście zakończone wnętrze otoczone szpalerami grabowymi i przecięte były wzdłuż osi głównej aleją lipową. Oprócz kanału i stawów na strumieniu w ogrodach znajdowały się jeszcze inne stawy i sadzawki, wykopane w pobliżu rzeki. Kanał nazywany krzyżowym posiadał tylko trzy ramiona, z których wschodnie (dłuższe) przecinała droga biegnąca wzdłuż wschodniej granicy parterów. Nad kanałem przerzucony był przy tej drodze mostek. Po zachodniej stronie kanału, na usypanym wzgórzu, stał pawilon ogrodowy (lub altana). Wzdłuż kanału i przez ogrody biegły proste drogi spacerowe. Dwie lub trzy z nich zbiegały się na zakończeniu alei lipowej, posadzonej za kanałem, wzdłuż osi głównej. Niewykluczone, że północna, położona nad kanałem część ogrodu, miała charakter leśny i pełniła funkcję zwierzyńca".

З гэтага ландшафтнага багацця на сённяшні дзень не захавалася па сутнасці нічога. Сёння там іншы ландшафт, які ўсталявалі ўсялякія грамадскія працэсы, што пракаціліся па нашых землях цягам XX стагоддзя. Прырода таксама ўнесла свой уклад у тамашні краявід. Уласніца Фларэнтына Нарбут „w 1915 r. ewakuowała się wraz z czterema synami do Moskwy zostawiając majątek bez opieki. W latach 1915-1922 nastąpiła drastyczna dewastacja kompozycji. W 1920 r. spalony został dwór. W wyniku zniszczeń okrojony i zaniedbany park stał się nieużytkiem, ale funkcjonowały jeszcze sady i ogrody warzywne zajmujące wschodnią część założenia. Do lat 30. XX w. stała jeszcze ogromna stodoła pałacowa, która ostatecznie została zniszczona przez wichurę". Адзін з сыноў загінуў у час Першай сусветнай вайны; другі, ранены, жыў пасля вайны ў Маньчжурыі, дзе закончыў жыццё самагубствам; трэці сын трапіў у Катынь... Саветы, якія ўступілі сюды ў 1939 годзе, высеклі сад і паркавыя дрэвы. „W 1944 r. rozpoczęto parcelację majątku liczącego wtedy 93 ha — rozparcelowano wówczas pomiędzy 27 chłopów 84 ha. Pozostałą część obejmującą teren założenia dworskiego przekazano Spółdzielni Produkcyjnej w Tymiance, która użytkowała obiekt jeszcze w latach 80. XX w. Po parcelacji nastąpiła szybka likwidacja kompozycji ogrodów, których tereny przystosowano do celów rolniczych lub zamieniono na pastwiska. Około 1950 r. i w latach następnych rozebrano dwór (pierwotnie oficynę) i wszystkie inne zabudowania dworskie, ze stawów spuszczono wodę i wyłapano z nich ryby, co spowodowało spłycenie i zarastanie tych zbiorników szuwarami i olsami".



# Следам за дваром



■ Бабровая хатка



А цяпер тыя ставы адбудоўваюць бабры. Заміж панскіх палацаў узвялі яны цалкам прыстойную сваю хатку, як новы элемент тамашняга краявіду. Займаюцца яны таксама высечкай толькі што згаданых вольхаў. Зыгмунт Глогер пісаў, што бабры „podobno najliczniejsze były na Podlasiu nad górną Narwią i Biebrzą, którą dawniej nazywano Bobrą od obfitości tych zwierząt. Ostatnie bobry wyginęły nad Narwią w Tykocińskiem i nad Bobrą — w pierwszej połowie XIX wieku". І далей: „Najwięcej było bobrów na Litwie: w puszczy Białowieskiej i na Polesiu, na Białorusi. Gdy w Polsce wyginęły, uważano litewskie, ciemnej maści, za najprzedniejsze. Piękna czapka czyli kołpak z czarnego bobra, jakie nosili senatorowie i prałaci, a z zakonów jezuici, kosztował niekiedy 300 złotych. „Statut litewski" zastrzega: „Gdyby kto miał w czyjej ziemi bobrowe gony, mógł żądać, aby właściciel tego gruntu, ani sam, ani ludziom pozwalał podorywać pole, lub karczować sianożąć w odległości rzucenia kija, celem aby nie były bobry płoszone: gdyż raz wypłoszony z gonu, tracił cały przemysł, który społeczeństwu bobrów czyni go użytecznym. A jeśliby pod żeremia podorał, a tym bobry wygonił, ma płacić 12 rubli, a temu żeremieniu przecie ma dać pokój. A jeśliby bobr z tego starego żeremienia wyszedł, a przyszedł w insze żeremie na grunt inszego pana, tedy w czyim gruncie żeremię będzie, temu też i łowienie bobrów należeć ma".

Здаецца, што каля Нурца зараз баброў ніхто не палохае. А ў месцах, якія баброў не цікавяць, расце малады лясок. Дзе-нідзе яшчэ віднеюць лапікі ворнай зямлі, дзе знясіленыя нашчадкі бенефіцыянтаў аграрнай рэформы 1944 года прадаўжаюць унаследаваны з дзядоў-прадзедаў рытуал здабывання хлеба свайго надзённага. А хто ўжо зусім знясіліўся і перасяліўся ў свет вечнай памяці, таго некаторыя здабыткі ўпрыгожваюць той мясцовы няхітры краявід, напрыклад выкінутыя на прыроду аджытыя тэлевізары...

У Нурэц трапіў я ў сумнае восеньскае надвор'е, а спароджаны ім настрой узмацняў вясковы вулічны ландшафт. Азываліся адно куры ды пеўні, не чуваць было ні мыкання кароў, ні квіку свіней. Большасць панадворкаў незаселеная. Абымшэлыя платы выклікаюць спагаду, балясы паволі развітваюцца са знявольваючымі іх жэрдкамі, быццам рваліся на свабоду ад сваіх „карміліц", быццам вырaслі ў дарослaсць, у сумную спеласць — спеласць усеагульна пазначаную трэшчынамі і высыханнем сакавітасці. Каб утрымаць наканаваную ім калісь пазіцыю, яны, так як і знясіленыя людзі, падпіраюцца палачкамі-балясамі. Яны, тыя платы, у нечым таксама нагадваюць абарыгенных вывадкаў, якія вылецелі з роднага кутка ў самастойную будучыню. Вуліца ў Нурцы ўяўляе сабою арыгінальны, але агульны экспанат прамінання. Вось даўняя хатка, у якой дзверы з векавой колішняй клямкай, прычыненыя, прыпыненыя ланцужком, быццам з тае хаткі нехта выйшаў толькі на хвіліну, да суседзяў, абмяняцца апошнімі навінамі. З сярэдзіны відаць засаўку, якою жыхары хаткі засоўвалі дзверы нанач, каб ніхто не трывожыў іх сну. Цяпер гэта непатрэбна, бо ў вёсцы быццам усталёўваецца вечная цішыня, дзе ўсялякія сучасныя эфірныя носьбіты інфармацыі не трапляюць на ніякія рэцэптары, не выклікаюць ніякага водгуку. Вёска Нурэц паволі падаецца следам за сваім дваром...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 03